ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

12-18 ЧЭРВЕНЯ 1993 г. № 24 (3694)





Алесь Пушкін з'яўляецца са сваімі творамі на публіку даволі рэдка, але ягоныя з'яўленні — памятныя. Прычым, калі гаворка ідзе пра Пушкіна, дык твор — гэта не толькі жывапіснае палатно альбо роспіс. Гэта яшчэ інсталяцыі і ўжо класічныя хепенінгі ў Мінску і Віцебску з нагоды Дня Волі — 25 сакавіка. Хоць ён і не мае ніякага дачынення да тэатра, але я, бадай, найперш успрымаю яго не як жывапісца, а як мастака сцэнічнай дзеі. Ён валодае талентам з'явіцца ў патрэбны час у патрэбным месцы. Яму, як акцёру, неабходны глядач. А яшчэ лепей — саўдзельнік.

Прага свабоды, імкненне да незалежнасці, памяць пра тое, як бальшавікі закрывалі ягоныя выставы ў дзень адкрыцця, прывялі мастака да думкі, што няблага б мець уласную карцінную галерэю. І тут ён прадэманстраваў яшчэ адзін свой талент, пра які шматлікія сябры мастака нават і не здагадваліся. Талент прадпрымальніка.

Сёння фасад будынка побач з Віцебскай ратушай, над якой у жніўні 1991 года Алесь узняў бел-чырвона-белы сцяг, упрыгожвае шыльда: «Галерэя «У Пушкіна». Скуль грошы на гэтую справу? — запытаецца чытач. Грошы далі мясцовыя прадпрымальнікі, неабыякавыя да лёсу нацыі і культуры, і нашы суайчыннікі з дальняга замежжа. Заўважце, грошы далі не пад вытворчасць альбо наяўны тавар, а пад ідэю і асобу. Асобу творцы!

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

Парламент

# І ЗНОЎ ПРА КДБ

Думаю, што агляд мінулага парламенцкага тыдня лепш за ўсё пачаць з лічбаў, якія былі прыведзены С. Шушкевічам на пасяджэнні ў аўторак. За месяц працы Вярхоўным Саветам цалкам разгледжана 16 пытанняў, яшчэ 14 знаходзяцца ў стадыі завяршэння, а 11 пунктаў парадку дня пакуль што не выносіліся на абмеркаванне сесіі. У сувязі з такой статыстыкай Станіслаў Станіслававіч прапанаваў — ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета — лічыць суботу рабочым днём для парламента.

Большасць часу работы парламента на мінулым тыдні была прысвечана разгляду раней адкладзеных праектаў. І найбольш гарачыя спрэчкі зноў выклікаў праект Закона «Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь».

Старшыня Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю М. Грыб заявіў, што КДБ павінен падпарадкоўвацца Савету Міністраў. Што ж датычыць узаемаадносін Камітэта дзяржбяспекі з Вярхоўным Саветам, то апошняму надаецца права кантролю. Нагадаем, што пасля рашэння парламента двухгадовай даўнасці аб перападпарадкаванні КДБ Вярхоўнаму Савету пад гэты варыянт была падпраўлена і Канстытуцыя Беларусі. Цікава, колькі ж разоў збіраюцца перапісваць народныя дэпутаты наш асноўны закон?

У гэтым кантэксце натуральным выглядае здзіўленне В. Голубева той лёгкасці, з якой Мечыслаў Іванавіч мяняе свой пункт гледжання на самыя істотныя пытанні нашай знешняй і ўнутранай палітыкі. Дэпутат задаў рытарычнае пытанне: навошта падпарадкоўваць Саўміну і рабіць ручным КДБ, які выкрывае многія непрывабныя з'явы ў дзейнасці ўрадавых структур?

Слушным было выступленне на гэтую тэму і другога дэпутата ад апазіцыі — Алега Трусава. Ён заявіў, што на сённяшні дзень Саўмін з'яўляецца абсалютна бескантрольнай структурай. Калі ўраду падпарадкаваць яшчэ і КДБ, то грамадска-палітычная сітуацыя ў рэспубліцы яшчэ больш абвострыцца. Калі нават парламенцкая большасць і здолее правесці свой варыянт закона, то Канстытуцыю змяніць усё адно не ўдасца.

За падпарадкаванне КДБ Саўміну выказалася 166 дэпутатаў. Падчас першага абмеркавання галасоў было на 19 менш. Можна дапусціць, што пасля разгляду законапраекта ў трэцім чытанні неабходная колькасць галасоў будзе набрана.

Даволі хутка быў прыняты Закон «Аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і з карупцыяй». У рэшце рэшт прынятЫ Закон «Аб пажарнай бяспецы», які таксама разглядаўся на мінулым тыдні. Унесены змяненні ў Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь. Праўда, не ў тым аб'ёме, як прапанаваў Д. Булахаў: артыкулы аб прамысловым шпіянажы і раскрыцці камерцыйнай тайны прыйшлося адправіць на дапрацоўку.

Бадай што самым цікавым было абмеркаванне адпраўленых раней на дапрацоўку артыкулаў законапраекта «Аб службе ў дзяржаўным апараце». Дэпутатаў чамусьці напалохала перспектыва прыняцця дзяржаўнымі служачымі адпаведнай іх статуту прысягі. Дарэчы, тэкст яе гучыць так: «Урачыста абавязваюся быць верным Рэспубліцы Беларусь, выконваць Канстытуцыю, ахоўваць дзяржаўную і службовую тайну, без прадузятасці, добрасумленна, выключна ў адпаведнасці з законам і ў інтарэсах Рэспублікі Беларусь ажыццяўляць правы і выконваць ускладзеныя на мяне абавязкі».

Не ведаю, як каму, але асабіста мне факт адмоўнай рэакцыі на прыняцце такой прысягі большасцю дэпутатаў падаецца сімптаматычным.

У «Розным» нельга не згадаць эмацыянальнае выступленне А. Вярцінскага. З той хаця б прычыны, што «зараджана» яно было выключна станоўчымі эмоцыямі. Аляксандр Эдуардавіч нагадаў дэпутатам пра фестываль у Маладзечне. Назваўшы яго сапраўдным святам беларускай культуры, музыкі і паэзіі, ён выказаў удзячнасць творчай інтэлігенцыі рэспублікі за ўдзел у фестывалі. «Вось такім чынам і трэба змагацца за адраджэнне беларускай культуры», — падкрэсліў народны дэпутат.

**Яўген ЛЮТЫ**

Канферэнцыі

# ЧАС ДЛЯ ЎМАЦАВАННЯ ДЗЯРЖАВЫ

***10 чэрвеня адбылася канферэнцыя Гарадской філіі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, на якой ішла гаворка аб пагрозе нейтральнаму статусу нашай краіны. А ў сённяшніх умовах страта Беларуссю нейтралітэту цягне за сабою і страту дзяржаўнай незалежнасці.***

М. Чарняўскі расказаў удзельнікам канферэнцыі аб прынцыпах швейцарскага нейтралітэту, якія ва ўсім свеце лічацца класічнымі. С. Леўшуноў таксама прыгадаў Швейцарыю, адзначыўшы, што ў канстытуцыі гэтай краіны нейтралітэт замацаваны толькі адным сказам пра тое, што Швейцарыя не ўступае ў ваенныя саюзы. Дарэчы, гэта і асноўнае палажэнне ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь, зацверджанай нашым Вярхоўным Саветам. Узброены нейтралітэт, магчымасць звярнуцца па дапамогу ў выпадку агрэсіі супраць Беларусі, але ні ў якім разе не браць удзелу ў чужых канфліктах — цяпер гэтыя палажэнні могуць быць перакрэслены «коллективной безопасностью».

А. Трусаў праінфармаваў прысутных аб міжнароднай канферэнцыі па праблемах бяспекі, якая ў той час праходзіла ў Мінску і на якой дэпутаты ВС Беларусі ад апазіцыі прысутнічалі ў якасці гасцей. У гэтай канферэнцыі бралі ўдзел усе краіны, што ўзніклі на руінах СССР, шэраг краін цэнтральнай і заходняй Еўропы, ЗША. Беларусь прадстаўлялі прыхільнікі «коллективной безопасности». Яны, дарэчы, так і не змаглі растлумачыць іншым, як гэта магчыма — быць у ваенным саюзе і не ўдзельнічаць у ім сваімі вайсковымі кантынгентамі.

А. Трусаў мяркуе, што камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце ўжо сама не рада, што фактычна справакавала рэферэндум аб нейтральным статусе нашай краіны. Бо народ прагаласуе за нейтралітэт, а значыць — за незалежнасць, і значыць — супраць гэтага ўрада і гэтага Вярхоўнага Савета. Гледзячы на тое, што робіцца ў Расіі, на расійска-ўкраінскую «крымскую вайну», Захад, зноў жа на думку А. Трусава, будзе рабіць стаўку на Беларусь /і на Шушкевіча/.

Першая задача, якая стаіць перад дэмакратычнымі сіламі, — адправіць у адстаўку карумпіраваны прамаскоўскі Саўмін, захаваўшы /пакуль што/ Вярхоўны Савет. Сёння ў Саўміне ўпраўленняў, якія дубліруюць міністэрствы, ужо болей, чым саміх міністэрстваў /чым не ЦК КПБ з яго аддзеламі і пададдзеламі?/.

— Рэферэндум можа вырашыць лёс нацыі, — закончыў сваё выступленне А. Трусаў.

В. Малашка перасцярог ад аднабаковай арыентацыі Беларусі на Захад. У Захаду свае інтарэсы, і яны неабавязкова супадаюць з інтарэсамі суверэннай Беларусі. Нам увогуле лепей трымацца як мага далей ад вялікіх дзяржаў. Можа, і ад ядзернай зброі мы зарана адмовіліся. Бо краіны «ядзернага клуба» пакуль што не далі нам гарантый нашай бяспекі ў абмен на наша міралюбства. Да таго ж, Расія паводзіць сябе ў адносінах да «блізкага замежжа» даволі-такі груба...

— Увогуле ж, — гаварыў В. Малашка, — ад удзелу ў войнах Беларусь ніколі не мела прыбытку, бо выступала ў гэтых войнах не як самастойная сіла, а як частка Расійскай імперыі. Нават у Другой сусветнай вайне Беларусь, фармальна залічаная ў кагорту краін-пераможцаў, на справе павінна быць аднесена да другога боку, бо разам з Германіяй, Венгрыяй і Японіяй панесла тэрытарыяльныя страты — падораны Польшчы Беласток, а Жамойці /Летуве/ — Вільня.

М. Алампіеў таксама выказаўся супраць ваеннага саюза з Масквою:

— На ўсходзе Еўропы мы — Швейцарыя. А ад нас да Парыжа столькі, як і да Масквы. Але, гледзячы на саўмінаўскія гульні з эканомікай Беларусі, ад нас шарахаюцца замежныя інвестары. З гэтым урадам нам у Еўропе няма чаго рабіць.

Выступіў на канферэнцыі і старшыня Каардынацыйнай Рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўнік М. Статкевіч. Ён назваў тры магчымыя варыянты знешняй палітыкі нашай краіны. Першы /за які выступае Кебіч і ягоная каманда/ — саюз на Усход, арыентацыя на Расію. Тут, безумоўна, ёсць станоўчыя моманты: шырокі /лічы, неабсяжны/ расійскі рынак і моцная сыравінная база. Але, звязаўшыся з нестабільнай у палітычным сэнсе дзяржавай, мы рызыкуем перанесці на сваю зямлю яе праблемы. І створым сабе праблемы ў стасунках з Балтыяй, Польшчай, Украінай, з Еўропай увогуле. Другі варыянт — Балтыйска-Чарнаморскі эканамічны саюз. Ідэя слушная і нават перспектыўная. Але не трэба забываць, што ў Расіі /а яна рэальная сіла ў нашым рэгіёне/ не жадаюць бачыць у БЧС эканамічную супольнасць, і ўспрымаюць гэты саюз не інакшай, як «санітарны кардон» паміж Расіяй і Захадам. Утварэнне БЧС можа справакаваць прыход да ўлады ў Расіі вялікадзяржаўных шавіністаў, тых самых «чырвона-карычневых». А яны ўжо пачнуць ірваць «санітарны кардон» праз самае слабае звяно. Што гэта за звяно, тлумачыць не трэба. Акрамя таго, ёсць небяспека, што ў БЧС пачне іграць ролю гегемона Украіна, як Расія ў колішнім СССР. Так што застаецца адзін шлях — нейтралітэт. Нейтралітэт — гэта выйграны час для таго, каб умацаваць нацыю і дзяржаву. У свеце, дзе валадараць звышдзяржавы, нейтралітэт — паратунак для слабых. Нам трэба ўмацавацца, а там пабачым, у які хаўрус уступаць...

Такім жа чынам паставіў пытанне і В. Мазец. Нельга лезці ў чужыя саюзы, не ўладкаваўшы сваю дзяржаву; тым болей у саюз, дзе з табою ніхто не лічыцца.

А. Трусаў, выступіўшы другі раз, аспрэчыў некаторыя тэзісы М. Статкевіча. Для імперскай Расіі Балтыйска-Чарнаморскі саюз сапраўды — «санітарны кардон», сказаў ён. Але Расія дэмакратычная з рынкавай эканомікай, наадварот, можа мець вялікія выгоды ад супрацоўніцтва з БЧС.

На заключэнне М. Чарняўскі прыгадаў, што нейтралітэт цяжка даваўся такой краіне, як Аўстрыя. Пасля Першай сусветнай вайны Аўстрыя імкнулася аб'яднацца з Германіяй, і толькі саюзнікі-пераможцы не далі тады здзейсніцца «аншлюсу». Прайшло 20 год, аўстрыйцы адчулі выгоды ўласнай дзяржаўнасці, незалежнасці і нейтралітэту, і тады ўжо Гітлер зацягваў Аўстрыю ў Германію гвалтам.

Матэрыялы канферэнцыі будуць надрукаваны асобным выданнем.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

Віншуем!

# ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІЙ ФПБ

Сталі вядомы імёны лаўрэатаў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 1993 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці.

За творы прозы, паэзіі, драматургіі і публіцыстыкі адзначаны А. Жалязоўскі /кніга прозы «Чаканне шчасця»/ і А. Кудравец /зборнік аповесцяў і апавяданняў «Смерць нацыяналіста»/; за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей — У. Ягоўдзік /зборнік беларускіх легенд і паданняў «Заклятыя скарбы»/; за работы ў галіне журналістыкі — В. Леганькоў /цыкл публіцыстычных артыкулаў і нарысаў «Неизвестная война»/.

Па раздзеле «Музычныя творы і канцэртна-выканаўчая дзейнасць» прэміі атрымалі — У. Буднік /песні апошніх гадоў «Маці-зямля», «Янка Купала», «Бажэна», «Сумная каліна», «На шляху дзікіх гусей»/ і А. Ярмоленка /за высокае выканаўчае майстэрства ў канцэртных праграмах 1991—1992 гадоў і стварэнне праграмы «Шлях да Беларусі»/.

Прэміяй у галіне тэатральнага мастацтва адзначаны Г. Давыдзька /рэжысёр-пастаноўшчык/, Б. Герлаван /мастак-пастаноўшчык/, Л. Давідовіч і А. Ельяшэвіч /актрысы-выканаўцы галоўнай ролі/ — спектакль «Звон — не малітва» па драме І. Чыгрынава ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

С. Гайдук і Р. Барадулін сталі лаўрэатамі прэміі ў галіне кінамастацтва/ за стварэнне дакументальнага фільма «Вянок цярновых васількоў»/.

Па раздзеле «Творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва» лаўрэаты — І. Рымашэўскі /жывапісныя карціны «Гулянне ў парку», «Каравай», «Свята», «Астры», «Вялікдзень», «Верхні горад»/, В. Славук /за мастацкае афармленне кніг «Алёнка», «Вдовий сын», «Сказки зарубежных писателей», Э. Скобелева «Пацаны купили остров», Я. Лары «Необыкновенные приключения Карика и Вали», Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня»/.

Узорны ансамбль песні і танца «Камарыкі» Палаца культуры Наваполацкага вытворчага аб'яднання «Нафтан» /мастацкі кіраўнік Ч. Клячко/ і народны фальклорны тэатр танца «Карагод» Палаца культуры Мінскага вытворчага тонкасуконнага аб'яднання імя Ц. Я. Кісялёва /мастацкі кіраўнік А. Баканаў, музычны кіраўнік В. Драбовіч/ названы лаўрэатамі за дасягненні ў развіцці самадзейнай творчасці.

Прэзідыум Савета Федэрацыі адзначыў настаўніка сярэдняй школы N 3 г. Вілейкі І. Лашутку /за зборнік вершаў «Свята дваіх»/ і мастака Радашкавіцкага завода мастацкай керамікі А. Багданава /за стварэнне чайна-кававага сервіза з 42 прадметаў/ спецыяльнымі прызамі.



*У адным з нумароў маскоўскага часопіса «Знамя» за гэты год змешчаны нямецкія архіўныя матэрыялы пад агульнай шапкай «З застольных размоў Гітлера ў стаўцы германскага Вярхоўнага галоўнакамандавання», — занатаваныя стэнографамі фюрэра яго выказванні па розных аспектах германскай палітыкі, у тым ліку і на акупіраваных немцамі ўсходніх тэрыторыях. «Перш з ўсё мы не павінны накіроўваць нямецкіх настаўнікаў на ўсходнія землі, — вяшчаў Гітлер. — Самае лепшае было б, калі б мясцовае насельніцтва засвоіла толькі мову жэстаў... Да разумовай працы яго прывучаць не трэба...»*

*Гэтыя выказванні нацысцкага маньяка міжволі згадваюцца зараз, напярэдадні 52-й гадавіны з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Чырвоная армія, фактычна заспетая знянацку, знясіленая сталінскімі рэпрэсіямі сярод вышэйшага каманднага складу Узброенных Сіл у канцы трыццатых гадоў, адступала, сцякаючы крывёю, на ўсіх франтах...*

*Угледзьцеся ў здымкі, што ўваскрашаюць першыя дні вайны. Знятыя франтавым фотакарэспандэнтам салдаты, што вядуць мо апошні свой бой. А другі здымак зроблены самімі фашыстамі пасля захопу вёскі Ракавіца Брэсцкага раёна.*

Надзённае

# ПРАДЧУВАННЕ ЗЯМЛІ

Ад Бярэсця да Ршы,
Ад Браслаўя да Гомля
На пагорках пустых
І ў нізінак гніллі
Беларус-гараджанін
Спіну сваю ломіць —
Урабляе кавалак
Прыдатнай зямлі.

Ах, браткі-беларусы,
Бетонныя вуллі
Як вам хутка абрыдлі —
І зноў да зямлі?
Тут прычына не ў тым,
Што пра голад пачулі,
І не ў тым, што буцвеюць
Калгасаў палі.

У душы пакалення,
Што выгнана з вёсак
Працаднямі пустымі
І здзекам сталіц,
Як вясновая рунь,
Шуганула-ўзнялося
Прадчуванне-жаданне
Уласнай зямлі.

Дзе ты сам гаспадар,
І рашае твой голас,
Дзе абсяг твой нярушны,
Таўсцеюць камлі.
Пра такое ў душы,
Памятаеце, Колас
Так сказаў красамоўна
У «Новай зямлі».

Дык звяртайся да Бога,
Вясковец і месціч,
Вартаўнік і вучоны,
І ласкі малі:
Апраўдаецца хай,
Не пракоціцца ўлегцы
Дараванае нам
Прадчуванне зямлі.

**Алесь КАСЦЕНЬ**

*г. Паставы*

# КАНТАКТЫ, ЯКІЯ ПРЫНОСЯЦЬ ПЛЁН

***Нядаўна група беларускіх медыкаў на чале з міністрам аховы здароўя рэспублікі В. Казаковым пабыла ў службовай камандзіроўцы ў Злучаных Штатах Амерыкі. Пра мэты гэтай паездкі з Васілём КАЗАКОВЫМ гутарыць наш пазаштатны карэспандэнт у ЗША Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ.***

**— Васіль Сцяпанавіч, якая асноўная мэта вашага прыезду ў Амерыку?**

— Па-першае, напоўніць пэўным зместам наша супрацоўніцтва з Пітсбургскім універсітэтам /штат Пенсільванія/. Па-другое, падпісаць дагавор паміж Пітсбургскім дзіцячым шпіталем і 4-й дзіцячай клінічнай бальніцай г. Мінска. І, па-трэцяе, вырашыць пытанні арганізацыі сумеснай працы паміж Інстытутам радыяцыйнай медыцыны Беларусі і кафедрай эндакрыналогіі і педыятрыі Пітсбургскага універсітэта.

Гэтыя пытанні мы цэлы тыдзень абмяркоўвалі з амерыканскімі калегамі. Калі яны былі ў студзені ў нас у Мінску, мы падпісалі пратакол аб намерах, а тут ужо — пратакол аб супрацоўніцтве.

**— Хто фінансуе сувязі беларускіх і амерыканскіх медыкаў?**

— 275 тысяч долараў выдаткавана на гэтыя мэты Усеамерыканскай асацыяцыяй аховы здароўя. На жаль, на закуп медыцынскага абсталявання, лекаў і іншай медыцынскай дапамогі пойдзе меншая частка гэтай сумы, большая — на выдаткі, звязаныя з паездкамі амерыканскіх урачоў у Беларусь і нашых у ЗША.

У гэтую нашу паездку члены дэлегацыі выступілі з лекцыямі і дакладамі, у якіх пазнаёмілі амерыканцаў са становішчам, у якім апынулася Беларусь пасля чарнобыльскай катастрофы. Спадзяюся, усё гэта будзе садзейнічаць павелічэнню гуманітарнай дапамогі /а абяцаюць нам і лекі, і медыцынскае абсталяванне/ жыхарам Беларусі, што жывуць у забруджанай зоне.

Што датычыць чыста навуковых кантактаў, дык, напрыклад, мы плённа працавалі над сумеснай беларуска-амерыканскай праграмай, якая будзе вывучаць усякія паталогіі, звязаныя з захворваннямі ад радыеактыўнага выпраменьвання шчытападобнай залозы, а таксама праграмай, звязанай з лячэннем цукровага дыябету. У рамках гэтых праграм мы ўжо атрымалі медыцынскае абсталяванне, у тым ліку сучасны камп'ютэр, разлічваем атрымаць таксама біяхімічныя аналізатары і транспартныя сродкі.

Дарэчы, акрамя ЗША, ёсць у нас неблагія кантакты з Германіяй, якая таксама аказвае нам спецыфічную медыцынскую дапамогу лекамі і абсталяваннем, там праходзяць стажыроўку нашы спецыялісты.

Ёсць падобныя сувязі з Італіяй, медыцынскія цэнтры якой узяліся падрыхтаваць 15 нашых медыкаў па розных спецыялізацыях, з Англіяй, Люксембургам, Японіяй, Галандыяй, ад якой мы, дарэчы, ужо атрымалі 10 мільёнаў гульдэнаў /5 мільёнаў долараў/ для арганізацыі сумеснай беларуска-галандскай палiклінікі ў Гомелі.

**— З якім пачуццём вы адлятаеце са Злучаных Штатаў Амерыкі?**

— З пачуццём удзячнасці да амерыканскіх калег, якія з глыбокім спачуваннем і разуменнем ставяцца да выпаўшых на долю беларускага народа выпрабаванняў, звязаных з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, імкнуцца дапамагчы нам.

# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ

## «ВОПРОСЫ ЯЗЫКОЗНАНИЯ» І ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

У зладжаны, добра арганізаваны, дырыжыруемы хор антыбеларускай песні тонкім барытонам і хітравата-местачковай манерай падпявання падпрагаецца капэла «беларускіх» прадпрымальнікаў. Якія прычыны змушаюць іх далучацца да гэтай песні і нават стаць годнымі запявалами хору?

Песеннае мастацтва традыцыйна ў Беларусі характарызавалася зладжанасцю, шматгалоссем, духоўным узрушэннем і шчырасцю. А галоўнае — на нашых землях песня ніколі не рабілася прадметам куплі-продажу ці, па-марксісцкай схеме, г-т-г /грошы-тавар-грошы/. Гэты гістарычна-«песенны» экскурс выкліканы наяўнасцю ў друкаваных сродках нашае краіны серыі матэрыялаў, скіраваных супраць беларускай мовы, яе адзінадзяржаўнага статуса, супраць самой беларускай дзяржаўнасці. І як жа парадаксальна, што прадпрымальнікі, сацыяльны пласт людзей, які павінен выконваць сваю гістарычную місію ў форме тварэння нацыянальна-дзяржаўнага феномену, напаўняючы яго зместам эканамічнай сутнасці, свядома ці падсвядома выступае ў якасці варожай сілы ў адносінах да абавязковага атрыбуту незалежнай дзяржавы — нацыянальнай мовы!

Праўда, гэта робіцца з улікам часу і прафесійна-камерцыйнай патаемнасці. Дастаткова звярнуць увагу на інфармацыю, якая змешчана ў газеце «Фемида», N 21 пад кідкім загалоўкам «Предприниматели — за двуязычие». Не буду пераказваць зместу па прычыне адсутнасці чаго-небудзь больш арыгінальнага, чым пазіцыя КПБ-ПКБ. Звярну ўвагу толькі на тое, што пазіцыя камуністаў характарызуецца ўсё ж «шчырасцю» ў пытанні «двуязычия», традыцыйнасцю скарыстання тактычных хадоў ва ўсе часы камуністычнага існавання ва ўсіх сферах. Гэтая пазіцыя вельмі просценькая: «двуязычие» — «одноязычие» — «безъязычие» сацыяльнае і палітычнае. І гэта не выклікае здзіўлення. Здзіўленне выклікае іншае: пазіцыя «необуржуазии» /як абазначаюцца прадпрымальнікі ў постсавецкім друку/ шмат па якіх сферах дзяржаўнай палітыкі, у тым ліку і моўнай, супадае з камуністычнай.

Чым жа незадаволены «прагматычныя бізнесмены», якія «единственным в мире эсперанто признают язык экономики»? Тут зноў жа нічога новага не сказана, нічым новым не абгрунтоўваецца тэза «двуязычие», як «простым расчетом», «существенными затратами, которые мы себе сейчас просто не можем позволить». Карацей кажучы, прэтэнзія ўдзельнікаў «расширенного заседания Союза предпринимателей Республики Беларусь и Минского Совета малых предприятий и предпринимателей» на мадэрнісцкае бачанне праблемы «двуязычия» літаральна нічым не адрозніваецца ад класічнай пазіцыі партыйна-прапагандысцкіх штурмавікоў Савелія Паўлава і пенсійна-пажылых сокалаў Чыкіна. Адзінай мадэрнісцкай навацыяй выступае «отсечение русскоязычного рынка, убийственное для предпринимательства». Нават калі прытрымлівацца Марксавай схемы, то там паняцце «рынак» ужываецца з паняццямі «нацыянальны», «еўрапейскі», «рэгіянальны», «сусветны», «мясцовы» і г. д., але ні ў якім разе няма «русскоязычных», «франкоязычных», «еврейскоязычных» рынкаў, не кажучы ўжо пра сучасную тэорыю і практыку эканомікі.

Трэба думаць, такая недарэчнасць з'яўляецца вынікам росту, а можа, нават і «головокружением от успеха» ці рэліктавасцю камуністычнага гарту людзей бізнесу, якіх не так і мала на Беларусі. А можа, «русскоязычный рынок» утвараецца ў выніку звычайнага атаясамлівання паняццяў «базар» і «рынак», бо сапраўды базар характарызуецца, акрамя эканамічнага зместу, зместам нацыянальна-моўным, вобразным.

Безумоўна, увесь цымус беларускіх прадпрымальнікаў утрымліваецца ў «русскоязычном рынке». Тут трэба шукаць адказ. Усё паказвае на тое, што нашы бізнесмены ў двукоссі без яго яшчэ далёка не дараслі да мыслення і дзеянняў у катэгорыях суверэннай Беларусі, а не як механічнага працягу Расіі.

Звядзенне шырокага спектра эканамічных адносін ува ўсёй іх складанасці і супярэчлівасці да сувязей з «русскоговорящим рынком» як у цяперашнім часе, так і ў будучыні раскрывае сутнасць эсперанта «прагматичных бизнесменов», якое на Беларусі традыцыйна называлася гешэфтам і скіравана на рэалізацыю ўласнага «ЭГО» па-за перспектывай забеспячэння развіцця грамадства, у якім яны жывуць.

Уся гэта валтузня з мовай мае пад сабой дакладную эканамічную падставу, а не моўную. У дадзеным выпадку «двуязычие» павінна быць гарантам палітычнай, ваеннай уніфікацыі Беларусі і Расіі, а прадпрымальніку — гарантам перапампоўвання таварнай масы па неабсяжнай прасторы СНД, іх перапродажу ці, праўдзівей кажучы, спекуляцыі і бестурботнасці бізнесменскага існавання.

Надоечы *лідэр* прадпрымальнікаў Беларусі У. Карагін у газетным інтэрв'ю /«Звязда», 20.05.93 г./ дыферэнцыраваў капітал па крыніцах назапашвання на 4 групы: парткапітал, крымінальны, замежны і айчынны. Негатыўна паставіўшыся да першых 3-х груп капіталу, аўтар айчынны капітал характарызуе як той, *«які сваёй працай, розумам, талентам, удачай імкнецца стварыць асновы ўласнай справы, падмурак для вытворчасці, для стварэння рабочых месц»*. Усё бездакорна. Але бачыцца, што айчынны капітал, як і ўсякі капітал, не прызнаючы эканамічных і палітычных межаў, заўсёды лакалізуецца ў межах Айчыны, у яе палітычнай, духоўнай акрэсленасці і пачуццёвасці. Асноўная яго айчынная функцыя — падтрыманне той Айчыны, у якой ён жыве, існуе ўва ўсіх сферах жыцця, як матэрыяльнай, так і духоўнай. Калі гэтага няма, то адбываецца трансфармацыя капіталу ў адну з трох іншых груп — негатыўнага, антыдзяржаўнага накірунку.

*(Працяг на стар. 4)*

З нагоды

# ПЕРЫФЕРЫЯ Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ?

Было гэта даўнавата, яшчэ ў траўні. У вялікай універсітэцкай аўдыторыі *сабралася вялікая* прадстаўнічая кагорта. Рэктары, замежныя госці, даследчыкі і навукоўцы, міністэрскія работнікі — вольных месц не было. Затое была нагода: ПАДЗЕЯ. Мелася адбыцца цырымонія прыняцця вядомага ў свеце доктара мастацтвазнаўства, ганаровага члена шматлікіх акадэмій і універсітэтаў, навукоўца і мецэната Анджэя Цеханавецкага ў ганаровыя дактары нашага беларускага універсітэта. Падзея, магчыма, звычайная на Захадзе, але ці маем права сказаць гэтак жа і мы?

Узгадайма, не так ужо даўно для беларускіх мастакоў было галоўным доказам вартасці іх мастацтва — выстаўленыя ў Маскве ў залах на Кузнецкім мосце аднадзве работы. Цяпер жа — імідж ствараецца колькасцю прададзеных за мяжу прац. Мы кідаемся з адной крайнасці ў другую, збіраючы доказы нашай нацыянальнай адметнасці то на ўсходзе, то ў процілеглым баку, падладжваючы свае погляды і разуменне, тую ж нацыянальную адметнасць пад чужыя густы. Калі, у які момант гістарычнага развіцця ў нас уклалі разуменне, што мы — перыферыя, якая здольна толькі прапаноўваць цацкі альбо гарлачыкі? Але ж дастаткова паглядзець на карту, каб убачыць, што мы — цэнтр Еўропы, *які ў свой час прыцягваў і вабіў* творцаў, сусветна вядомых мастакоў, пісьменнікаў. Дык і паводзіць сябе мы павінны адпаведна. І адпаведна гасцей прымаць, і перад светам трымацца.

Жахліва атрымліваць прыклады нашай некампетэнтнасці. І балюча загладжваць перад замежнікамі — што часцей за ўсё з адкрытай душою цягнуцца да нас, на радзіму продкаў — сваю няўважлівасць і нават падкрэслена пагардлівыя адносіны, часта прынятыя як належныя ў нашай краіне і страшэнна рэдкія ў свеце, дзе за ўсё неабходна кампенсацыя, маральная і матэрыяльная. Таму незамаскаваная пагарда з боку міністэрскіх чыноўнікаў, напрыклад, да Лявона Тарасэвіча — славутага беларуса, найвядомага сучаснага мастака Польшчы — нельга разглядаць як адзінкавы выпадковы факт. Іх, на жаль, багата. Як пацвярджэнне гэтага — цырымонія ўшанавання Анджэя Цеханавецкага. Беларус паходжаннем, з магнацкага роду /які да 1917 г. валодаў землямі пад Бачэйкавам, а прадстаўнікі яго насілі тытул графаў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх/, ён ледзь не першым у свеце ўзгадаў у 70-х гадах беларускую нацыю ў сваёй манаграфіі пра Міхала Казіміра Агінскага /дарэчы, перакладзенай з нямецкай мовы на беларускую літаральна толькі *зараз/, ён шматразова выступаў* як мецэнат беларускай культуры, падараваўшы радзіме слуцкі пас, аказаўшы дапамогу ў адкрыцці мемарыяльнай дошкі Скарыны ў Падуі. І падзея надання ганаровага доктарства магла і павінна была прадэманстраваць удзячнасць нашай краіны чалавеку, які столькі зрабіў для Беларусі, бо аддзячыць яго ў іншай форме мы не здатныя па многіх прычынах. Зразумела, што цырымонія павінна была быць прыгожай і ўрачыстай. Прыехаў Анджэй Цеханавецкі да нас, як у Еўропу, выступіў у класічным адзенні доктара, магната і прызнанага светам чалавека, сказаў прыгожыя словы. Але, на жаль, убога прыбраная, нават без кветак і дзяржаўнага сцяга аўдыторыя ніяк не адпавядала падзеі. Здавалася, што госць заблукаў, трапіў сюды выпадкова. Непрадуманай, афіцыёзна-халоднай была і сама цырымонія. Свята не атрымалася...

І гэта адбывалася ў сталіцы незалежнай дзяржавы! Такое стаўленне да прэстыжу нацыі ў беларускага чыноўніцтва. Як бы нам такім чынам і сапраўды не застацца перыферыяй у цэнтры Еўропы.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

З пошты "ЛіМа"

# ШТО Ж ГЭТА РОБІЦЦА?

Цяпер, здаецца, усе і ўсё ведаюць. Чалавек, які не мае нават элементарных ведаў па эканоміцы, дае парады, як вывесці краіну з эканамічнага крызісу; другі, чые пазнанні ў гісторыі нашай рэспублікі пачэрпнуты з падручніка Абэцэдарскага, з амбіцыйнай перакананасцю даказвае, што да 1917 года ніякай Беларусі і ў паміне не было; трэці заклікае ва ўсім давяраць толькі гараскопу, чацвёрты... Але — хопіць. Калі вы хоць рэдка заглядваеце ў газеты, то самі прадоўжыце пералік падобных прыкладаў. Выказваючы свае сентэнцыі, амаль кожны аўтар лічыць іх ісцінай у апошняй інстанцыі. Яму напляваць на тое, што неабвержна сцвярджаюць гістарычныя дакументы, ён не хоча браць пад увагу слушныя выказванні нашых знакамітых продкаў, ён адмятае жыццёвыя факты, якія ідуць уразрэз з яго сумніцельнай ідэяй.

Нешта падобнае мы бачым у спрэчках пра адраджэнне беларускай мовы. З падачы закасцянелых артадоксаў імперскага мыслення зноў пайшла гуляць па старонках газет дыскусія аб так званым двухмоўі. Не мінула гэтая хваля і старонак раённых газет. Вось, калі ласка, артыкул памочніка пракурора Іванаўскага раёна В. Паўлаўца «Нас аб'ядноўвае двухмоўе» /газета «Чырвоная звязда» ад 21 мая г. г./. Як бачыце, ужо сам загаловак артыкула не дапускае аспрэчвання: калі не двухмоўе — дык разлад.

Што ж хвалюе аўтара? А вось што: «...у рэспубліцы нашай пражывае яшчэ і шмат людзей іншых нацыянальнасцей, сярод якіх больш мільёна — рускіх... Таму, замацаваўшы заканадаўча ў якасці дзяржаўнай толькі беларускую мову, мы аўтаматычна абдзелім у правах тых, хто гаворыць і думае на рускай мове».

Калі прытрымлівацца гэтай логікі, дык чаму толькі двухмоўе? Як мінімум трэба ўводзіць чатырохмоўе, каб не абдзяліць у правах тых, хто «гаворыць і думае» на польскай і ўкраінскай мовах. Божа літасцівы, да якога абсурду можна дагаварыцца!

Няўжо шаноўны юрыст сур'ёзна думае, што ў нашай рэспубліцы ёсць нейкая пагроза рускай мове? Якія ў яго прычыны для хвалявання? Ужо больш трох гадоў мінула з таго часу, як сесія Вярхоўнага Савета /яшчэ папярэдняга склікання/ прыняла Закон аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай, а што змянілася, напрыклад, у тым жа Іванаўскім раёне? Можа, менш стала ў кіёсках рускамоўных газет? Наадварот, іх стала значна больш. Можа, хоць адзін чыноўнік загаварыў на матчынай мове? Няма такіх. Паранейшаму на рускай мове пішуцца паперы ва ўсіх без выключэння канторах. А зазірніце ў нашу кнігарню. Сёння тут днём са свечкай не знойдзеш беларускай кнігі. Апошнюю беларускую кнігу я тут купіў паўгода таму назад — паэтычны зборнік «Гарынь» Міхася Рудкоўскага. Зараз паліцы кнігарні застаўлены толькі рускамоўнай літаратурай.

Дык хто тут абдзелены ў правах? Як тапталі на працягу многіх гадоў таталітарызму беларускую мову, так і працягваюць таптаць. Ну, скажыце, дзе яшчэ ў свеце так пагардліва адносяцца да роднай мовы? Вось на Кіпры, піша В. Паўлавец, карыстаюцца дзвюма мовамі — грэчаскай і турэцкай. І ні слова аб тым, што,апроч Кіпра, ёсць такія дзяржавы, як Грэцыя і Турцыя, дзе гэтыя мовы працвітаюць і развіваюцца. А для беларускай, апроч Беларусі, няма іншага кутка на зямным шары. Дык дзе ж ёй развівацца, нашай беднай мове? Можа, у Расіі? Дарэчы, там беларуская дыяспара вельмі мнагалікая. А ці ёсць хоць адна газета на беларускай мове, якая б выдавалася ў Расіі, ці беларуская школа? І гэта нікога не турбуе.

Дык што ж гэта робіцца? Няўжо мы ўсе ператварыліся ў манкуртаў? Крыўдна і балюча думаць пра гэта!

На заканчэнне, як кажуць, інфармацыя для роздуму. Хто ў нашай дзяржаве павінен стаяць на варце законаў? Ну вядома ж, пракуратура. Гэта яе святы абавязак. Дык як жа тады разумець памочніка пракурора раёна В. Паўлаўца, які сваімі разважаннямі бярэ пад сумненне Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы?

**А. КАЎКО,**
**ветэран вайны і працы**

*г. Іванава Брэсцкай вобл.*

Наш наведнік

# ... З ЛЁСАМ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Жанчына, якая зайшла да нас у рэдакцыю, заінтрыгавала адразу, з парога. Яна дастала з сумачкі два фотаздымкі, на якіх мы пазналі нашу слаўную паэтку, незабыўную Ларысу Геніюш. Знаёмімся. Аліцыя Андрэеўна Урубель, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі, наша даўняя чытачка, шчырая патрыётка, выдатна валодае беларускай мовай, любіць гісторыю і літаратуру. Аліцыя Андрэеўна мае сваякоў у Польшчы, у горадзе Вроцлаве. Аднойчы зімовым вечарам трапіла яна ў госці да старой жанчыны, якая доўгі час жыла ў Беларусі, настаўнічала ў мястэчку Зэльва, была жонкай войта, — Алімпіі Панасік, 1905 года нараджэння, якая і сёння жыве ў горадзе Вроцлаве. Тым вечарам, разглядаючы сямейны альбом, Аліцыя Андрэеўна і ўгледзела гэтыя здымкі. Зацікавілася.

Лёс Алімпіі Панасік не мог пакінуць абыякавай. Аказалася, што старую настаўніцу напаткала цяжкая доля. Доўгія гады яна насіла на сэрцы камень, хацела з некім падзяліцца, баялася. Але не вытрымала. І вось што расказала:

«У канцы верасня 1939 г. у мястэчку Зэльва пачаліся арышты. Я бачыла, як тутэйшах жыхароў вялі ў лёхі будынка гміны. Праз некалькі дзён прыехала тройка НКУС. Памятаю, на балконе гміны двое ў ваеннай форме ігралі на гармоніках, найчасцей «Кацюшу». Ігралі моцна, няйнакш каб заглушыць штосьці.Толькі пад раніцу музыка сціхла. Я спаць не магла, сядзела на гарышчы дома. Мой дом быў насупраць гміны, я ўсё бачыла. Уранку пад'ехала параконная фурманка. Туды пачалі кідаць трупы. Сярод забітых я пазнала жыхароў Зэльвы і ваколіц: Яна Крынскага — каталіцкага святара, Давыда Якубсона — праваслаўнага святара, якога ў сваёй «Споведзі» ўспамінае Ларыса Геніюш, Аляксандра Навумчыка — буфетчыка на чыгуначнай станцыі «Зэльва», Мікалая Янкоўскага, Станіслава Плаўскага, Мештовіча, Раматоўскага — зэльвенскіх гаспадароў... Пасля таго, як вывезлі трупы, кроў каля гміны абы-як засыпалі пяском і попелам. Фурманка паехала ў бок лесу Медухова, што на перакрыжаванні шашы Слонім — Зэльва...

Праз нейкі час арыштавалі мяне з дзесяцігадовай дачушкай. Трымалі нас у хляве, які быў перагароджаны дошкамі. За перагародкай дапытвалі і катавалі арыштаваных мужчын і там жа іх расстрэльвалі. Я ведала, што нас чакае. Шукала выйсця. Я сказала следчым, што я з Варшавы, прыехала ў госці. Размаўляла толькі па-польску і патрабавала, каб мне дазволілі вярнуцца «дадому», у Варшаву. Патрабавала, каб мяне завялі да начальніка. Начальнік доўга вагаўся. Урэшце звязаўся з нямецкім бокам. Апранута была я ў норкавае футра, добра ведала нямецкую мову, і немцы дазволілі мне паехаць у акупаваную імі Варшаву. І нават даручылі салдату давезці мяне на вазку да чыгуначнай станцыі, якая была за 10 кіламетраў. У Польшчы я сустрэлася з мужам, які яшчэ раней выехаў у Люблін.

Толькі пасля 41-га года я вярнулася ў свой дом у Зэльву. Тут знаёмы ўласнік пякарні габрэй папрасіў мяне ўзначаліць пякарню, бо ў той час габрэям гэта не дазвалялася. У яго ў пякарні добра працаваў ваеннапалонны чырвонаармеец, які не меў дзе жыць. Я хавала яго ў сваім доме не гарышчы, хоць гэта было вельмі небяспечна, тым больш, што ён меў радыёперадатчык, які маглі б выявіць адразу.

Мне часта даводзілася ездзіць па чыгунцы цягніком: то па муку, то па іншых справах пякарні. Аднойчы я ехала побач з маладой жанчынай, якая вельмі хвалявалася. Яна сказала, што едзе ў Оршу, бо там яе малая дачушка. Але ёй партызаны далі заданне перавезці пакет, і калі яна гэтага не зробіць, то не пабачыць дачкі. Тады я ўзяла ў жанчыны пакет, які ёй перадалі на паўстанку, паклала сабе на калені, прыкрыўшы яго. Немцы вельмі часта правяралі вагоны, але мая добрая нямецкая мова мяне, як заўсёды, выручыла і на гэты раз, мы перавезлі пакунак.

Пасля вайны ў сацыялістычнай Польшчы мяне засудзілі на 10 гадоў за супрацоўніцтва з немцамі. Здзекі, абразы, чаго толькі не спазнала! Уратавалася тым, што ўспомніла, як памагала савецкім партызанам. Пачала шукаць іх. На шчасце, гэтыя людзі засталіся ў жывых і пацвердзілі ўсё, што я сказала. Мяне выпусцілі з турмы, праседзела я толькі тры гады.

Пасяліліся мы з сям'ёй у Вроцлаве. Там жа ў Вроцлаве жыла сястра Ларысы Геніюш з Ларысіным сынам Юркам. А пазнаёмілася я з Ларысай, тады Міклашэвіч, пры паступленні ў настаўніцкую семінарыю. Лара, праўда, потым паступіла ў гімназію. Мы часта перапісваліся. Пасля, калі Лара выйшла замуж за Янку Геніюша з Зэльвы, мы часта сустракаліся, сябравалі. Аднак пасля вайны аказаліся ў розных дзяржавах. Дамовіліся, што я буду падтрымліваць яе Юрку ў Вроцлаве, а Ларыса — маіх асірацелых пляменніц Рыту і Інэсу ў Зэльве. Здымкі гэтыя Ларыса прыслала мне на памяць.

У 1981 годзе, калі мне было 76 гадоў, пасля ўвядзення ў Польшчы ваеннага становішча мяне яшчэ раз арыштавалі і засудзілі на два гады ўмоўна за перахаванне ў маёй кватэры забароненых рэчаў «Салідарнасці». Урэшце мяне рэабілітавалі і за 40-ыя гады, і за 81-ы год...»

Вось такі лёс жанчыны. Цікавы ўжо сам па сабе.

— А прыйшла я ў «ЛіМ», — сказала Аліцыя Андрэеўна, — найперш таму, што гэты лёс перакрыжаваўся з лёсам Ларысы Геніюш. Каб паказаць, а мо і апублікаваць гэтыя здымкі. Няхай яны і аматарскія, але, думаецца, яны варты ўвагі лімаўскіх чытачоў.

Не пагадзіцца з наведніцай было нельга.

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі**





*На здымках: Л. Геніюш з мужам сярод студэнтаў Гродзенскага медінстытута. Л. Геніюш з пляменніцай А. Панасік Рытай.*

# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ

*(Пачатак на стар. 3)*

І тое, што «сливки» предпринимательства единодушно проголосовали за эту отвечающую объективно сложившейся ситуации законодательную инициативу» /«двуязычие»/, падштурхоўвае да разважанняў накшталт: наколькі гэтыя «сливки» беларускія як у этнічным, так і ў дзяржаўна-беларускім /што важней/ плане? Бо такога прэцэдэнту сусветная практыка яшчэ не ведала, каб, напрыклад, дацкі, партугальскі ці ізраільскі прадпрымальнік-бізнесмен фінансаваў бы якія б то ні было мерапрыемствы, што нявечылі б мову ці прыбліжалі б фіналізацыю дацкай, партугальскай ці яўрэйскай /іўрыт/ мовы ці дзяржавы. А ўвядзенне «двуязычия», што разумее і «новы клас», гэта не проста лінгвістычнае пытанне, а сродак дэнацыяналізацыі, узмацнення на перспектыву аморфнасці беларускай дзяржаўнасці, адмаўленне беларускай мовы як такой.

Прытаміўшыся ад «абгрунтавання» «решения внести соответствующие изменения в Конституцию республики», «сливки» заспрачаліся наконт таго, як назваць сваё прафесійнае свята — як «День предпринимателя» ці «День возрождения предпринимательства». Пагадзіліся на другім варыянце на падставе таго, што «до эры марксизма-ленинизма предпринимательство на Беларуси процветало».

Але тут хацелася б зрабіць адно ўдакладненне: як да эры, так і пры ёй прадпрымальніцтва было далёка не беларускім, а каланіяльна-«інтэрнацыянальным». Складваецца ўражанне, што асобным бізнесменам вельмі хочацца звесці не толькі на паняційным узроўні, але і на практыцы Беларусь як гістарычнае нацыянальна-дзяржаўнае ўтварэнне да паняцця фізічнай геаграфіі.

Ва ўсе часы на Беларусі вельмі кпілі з гратэскавых паводзін местачкоўцаў, якія, каб схаваць нешта сутнаснае, наўмысна пачыналі прылюдна гучна гаварыць ці нават крычаць аб нечым неістотным, так сказаць, на «чужыя вушы», а тое патаемнае, што трэба было перадаць, гаварылі на «мігах», сістэме жэстаў, мімікі, цішком, двухсэнсоўна і г. д. Аналогія напрошваецца і на «обсуждаемое двуязычие»: ці сапраўды ў «нашых» прадпрымальнікаў, акрамя навязлівай ідэі лінгвістычнай заклапочанасці, ёсць праблемы, якія адпавядаюць сённяшняму дню і аб якіх трэба гаварыць і абмяркоўваць гучна і ўслых?

**Мікола АНЦЫПОВІЧ,**
**дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі**

*г. Мінск*

Беларусь ідэальная

# СУБКУЛЬТУРА

Уладзіслаў АХРОМЕНКА

ЭСЭ

## 1. АРХЕТЫПЫ. ФЕНЕЧКА І ВЫШЫВАНКА

Ёсць нешта зняважлівае ў прыстаўцы «суб» — прынамсі, словы «субпрадукты», «субкультура» ў дачыненні да слова сыходнага /параўнайце: «прадукты», «культура»/ выдаюць на нейкую другаснасць, нязначнасць ды несур'ёзнасць.

На пачатку васьмідзесятых, канчаткова звар'яцеўшы з тагачаснае школьнае руціны, я ўсур'ёз захапіўся ідэямі айчыннага маладзёжнага андэграўнда /Хіпі! Пратэст! Свабода!/. Мы — такіх як я было даволі многа — бавілі вольны час у скверыку ля помніка Ф. Э. Дзяржынскаму, разважаючы пад недазволеныя на тыя часы запісы «Ролінг Стоўнз» пра забароненыя тады крышнаіцтва і мастацкі авангард; прыстойныя прахожыя абыходзілі нашыя доўгія фрызуры і пацёртыя джынсоўкі за кіламетр /нас рэгулярна «вінціла» тутэйшая міліцыя/. Мы вандравалі і ў Санкт-Пецярбург /тады яшчэ Ленінград/, з мэтай «патусавацца» на «Сайгоне» — у знакамітай на ўвесь Саюз кавярні, што на рагу Неўскага і Уладзімірскага — прытулку айчынных хіпі, йіпі, панкаў, рок-н-рольных музыкаў ды іншых, ненадзейных, з пункту гледжання ўлад, элементаў. Мы жылі ў закінутых ламарнях часоў Радзіона Раманавіча Раскольнікава, ездзілі з горада ў горад «аўтастопам», ганарыліся адзін перад адным доўгімі валасамі, зашмальцаванымі рызманамі і фенечкамі — самаробнымі хіпоўскімі бранзалеткамі, выробленымі з дробных пацеркаў ці рознакаляровых тэлефонных дроцікаў, размалёўвалі сцены горада пацыфікамі і маглі да ранку спрачацца пра Маркузэ, Планта і сэнс жыцця /нас рэгулярна «вінціла» і тамтэйшая міліцыя/. Ноч патыхала перагрэтым бабінным магнітафонам, танным «Агдамам», дымам «Беламору» і сапраўднай свабодай — ці, прынамсі, яе ілюзіяй.

З тых часоў, як згадка пра сентыментальныя ўспаміны дзяцінства, у мяне засталася хіпоўская фенечка...

Дык якое дачыненне маюць гэтыя ўспаміны да слова, вынесенага ў загаловак? Самае непасрэднае, але пра гэта — крыху пазней.

А вось яшчэ адзін, нядаўні ўспамін.

Неяк, гады тры таму, давялося пазнаёміцца з адной вельмі паважанай ды адукаванай кабетай, сур'ёзнай спецыялісткай па тутэйшым фальклоры. Аднаго разу нашая гутарка зайшла пра беларушчыну /цяпер гэтаму слову вынайшлі афіцыйны тэрмін «адраджэнскія працэсы»/. Фалькларыстка выклала перада мною стос каляровых альбомаў з выявамі этнаграфічных брылёў, саламяных конікаў, куфраў ды вышыванак і доўга, з імпэтам даводзіла, што сучаснага сапраўды беларускага мастацтва не існуе ўвогуле, а тыя дробныя рэшткі, якія яшчэ засталіся, запаскуджаны заморскім кічам, і што адзінае вартае выйсце — «стаць тварам да вёскі», з яе традыцыямі, «духоўнаю ды матэрыяльнаю культурай і агульным ладам жыцця»; «каб спраўдзіць сваё высокае прызначэнне і адрадзіцца». Я з сумам рабіў выгляд, нібыта разглядаю музейныя экспанаты, і думаў, што спрадвечнае расейскае падзяленне на «почвенников» і «западников» знайшло-такі нязграбны працяг і на Беларусі.

/Цяпер гэтая кабета займае, здаецца, нейкую важную адміністрацыйную пасаду сейбіта «разумнага, добрага, вечнага», прапагандуе вышыванкі ў даверанай ёй парафіі і, напэўна, усур'ёз лічыць, што кансервацыя культуры — справа добрая і карысная/.

Ды вось пра што я: пры ўсім вонкавым непадабенстве абедзвюх сітуацый яны маюць агульную прынцыповую аснову і вызначаюцца адным тэрмінам: субкультура. У першым выпадку — субкультура андэграўнда, са сваім архетыпам — хіпоўскай фенечкай, у другім — субкультура афіцыёзнага адраджэнства таксама са сваім архетыпам — этнаграфічнай вышыванкай. Зрэшты, архетыпы могуць быць і іншыя. Проста асабіста для мяне першае эмацыянальна факусуе ў сабе доўгія фрызуры, танны «Агдам», аўтастоп, пацыфікі і наіўны, але цалкам абгрунтаваны ўзростам і часам лад паводзін, а другое — музейны пыл, моўныя штампы газетных артыкулаў, кандовы патрыятызм і непахісную перакананасць, што муміфікацыя нацыянальнай спадчыны — гэта і ёсць «адраджэнскія працэсы».

## 2. АСЯРОДАК

Субкультура, у адрозненне ад культуры, існуе ў строга зададзеных рамках. У адрозненне ад сапраўднай культуры яна скіравана не вонкі, а ў сябе, бо абслугоўвае адно абмежаваны асяродак. Асяродак і ёсць тая платформа, на якой субкультура можа існаваць. Гэта — як жаргон, зразумелы адно пэўнай групе асоб.

Асяродак можа гуртавацца па розных прынцыпах — узроставым, цэхавым, канфесійным, прафесійным і гэтак далей: гэтым ён і абмяжоўваецца. Знікае асяродак — адразу ж знікае і субкультура, якая ім сілкуецца.

Памятаеце, можа, распаўсюджаныя ў сярэдзіне сямідзесятых гітары з выразамі з гэдээраўскіх часопісаў і наклееных на дэку выявамі прыгажунь, папулярныя песні ў выкананні Людмілы Зыкінай і насценныя дываны з рэпрадукцыяй карціны «Охотники на привале»? Эстэтыка ані гарадская, ані вясковая, але эстэтыка прадмесця, — таго самага, з альясамі на вокнах, з марлевымі фіранкамі, з нядзельнымі вечаровымі спевамі пад гармонік... Дзе тыя фіранкі, дзе альясы, дзе нядзельныя пасядзелкі пад немудрагелістыя пераборы? Яны зніклі разам з прадмесцямі, саступіўшы месца строгай геаметрыі новых мікрараёнаў і цалкам стандартызаванаму ладу жыцця. Гітара з прыгажунямі выкінута на сметнік, бо безумоўна прайграе відэамагнітафону, пра Людмілу Зыкіну памятаюць хіба што пенсіянеры на лаўцы ў пад'ездзе, а насценны дыван з рэпрадукцыяй расейскага рэаліста Пярова неўзабаве атрымае свой інвентарны нумар у музеі — разам з хіпаўскай фенечкай і этнаграфічнай вышыванкай /толькі ў розных залах і ў розных вагавых катэгорыях/.

Асяродак знік, разам з ім знікла і ягоная субкультура.

## 3. ГВАЛТ

Але часта бывае, што субкультура становіцца афіцыйнай дактрынай: у падобных выпадках яна падмінае пад сябе ўсё іншае...

Чаго-чаго, а гэтага на Беларусі хапае, як той казаў, па самую плешку: вось старасвецкая менская забудова ператвараецца ў аперэтачную дэкарацыю, вартую быць хіба што ілюстрацыяй для вокладкі сувенірнага альбома «Інтурыста», а вось псеўдафальклорны кіч Беларускай дзяржаўнай філармоніі пацiху выцiскае з людской свядомасці аўтэнтычны фальклор... Я зусім не супраць сучаснага Траецкага прадмесця і ансамбля «Свята», я супраць таго, каб субкультура выдавалася за культуру **сапраўды нацыянальную.**

І калі чарговы раз я чую ці чытаю выступы шматлікіх «дзеячаў асветніцтва», «руплівцаў Адраджэння» ці проста афіцыйнах асоб, што зрабілі са сваёй беларускасці добра аплачваемую прафесію, і калі людзі гэтыя сцвярджаюць, што **адно яны** з аднадумцамі вартыя прадстаўляць беларускую культуру, а ўсе астатнія — не, то міжволі задаюся пытаннем: а ці існуе тая беларуская культура ўвогуле?

## 4 СПРОБА ВЫЗНАЧЭННЯ

Рызыкую быць абвінавачаным у антыадраджэнстве і непатрыятычнасці, але, задаўшыся падобным пытаннем, усё часцей хочацца сказаць: не. Беларускай культуры /у класічным разуменні тэрміна/ на сённяшні дзень няма. Сапраўдная культура не можа гуртавацца па ўзроставым, цэхавым, прафесійным, канфесійным прынцыпе, таму што культура — з'ява надузроставая, надцэхавая, надпрафесійная, надканфесійная.

Ёсць аб'ектыўны закон, паводле якога ўсведамленне сябе, як асобы, магчыма адно ў пэўнай паслядоўнасці. Для сябе я ўмоўна вызначыў яе так: «я» — «мой дом» — «маё мястэчка» — «мой народ» — «сусвет»; цераз прыступкі гэтыя не пераскочыш, як бы таго ні жадаў. Масавая ж свядомасць тутэйшага жыхара на сёння знаходзіцца ў лепшым разе паміж адзнакамі «мой дом» і «маё мястэчка»; пра нас пакуль рана гаварыць, як пра нацыю, а таму тэрмін «беларуская культура» варта адкласці да лепшых часоў. Гаварыць можна хіба пра кангламерат субкультур. Сярэдняму дэнацыяналізаванаму беларусу субкультурніцкія канцэпцыі адраджэнскага кшталту незразумелыя, а іх праблемы нецікавыя.

Сапраўдная культура можа быць толькі агульнанацыянальнай.

## 5. СУБКУЛЬТУРА

Неяк давялося браць чарку з адным вядомым тутэйшым Паэтам — адзначалі ягоную новую кнігу. Падвяселены Паэт усё скардзіўся: «Ну каму тая кніжка тут патрэбна? Паляжыць у кнігарні, а потым спішуць...». Але, умомант спахапіўшыся, прыняўся разважаць пра беларускую культуру, абавязак перад ёй...

Я яго разумею.

Акадэмічныя тлумачальныя слоўнікі прыстаўку «суб» вызначаюць так: другаснасць, пабочнасць. Напр.: «субпрадукты», «субкультура»...

# КАБ ПАДМУРАК БЫЎ ТРЫВАЛЫ

Першая навуковая канферэнцыя «Санкт-Пецярбург і беларуская культура», прысвечаная памяці акадэміка Яўхіма Карскага, што прайшла 1—2 чэрвеня г. г. у канферэнц-зале Расійскай нацыянальнай бібліятэкі /СПб/, хаця і выклікала напачатку адчуванне непаўнаты ці мо некаторай недапрацаванасці /у сэнсе адсутнасці ясна акрэсленай канцэпцыі/, тым не менш парадавала ўжо тым, што яна ўвогуле адбылася і якраз напярэдадні Сходу беларусаў свету, заклаўшы тым самым добры падмурак для ўмацавання сувязяў паміж навукоўцамі-беларусістамі Санкт-Пецярбурга і навукоўцамі Беларусі.

Пачэснай госцяй на канферэнцыі была ўнучка вядомага навукоўца філолаг Таццяна Сяргееўна Карская, якая ў сваім дакладзе распавяла пра шматгранную навуковую і грамадскую дзейнасць свайго дзеда, а таксама пра яго жыццёвы шлях і паскардзілася, што ні ў Мінску, дзе пэўны час працаваў акадэмік Карскі, ні ў Піцеры, на Васільеўскім востраве, дзе ён жыў апошнім часам, няма дагэтуль мемарыяльнай дошкі, хаця размовы пра гэта вядуцца ўжо не адзін год.

На пленарным пасяджэнні закраналіся розныя аспекты беларусазнаўства. З вялікай цікавасцю былі выслуханы даклады В. Булкіна /СПб/ «Да пытання аб фарміраванні этнакультурнай прасторы беларусаў», В. Грыцкевіча /СПб/ «Крыніцы па гісторыі Беларусі ў фондах ЦДА Расіі», В. Бабук /СПб/ «Выдавецкая дзейнасць Віленскай навучальнай акругі па матэрыялах аддзела рукапісаў РНБ».

Сціслы, але змястоўны даклад зрабіла М. Ткачэнка /СПб/ пра беларускі кніжны графічны партрэт XVII стагоддзя. А. Лысенка /СПб/ апавядаў пра тое, як збіралася беларуская калекцыя Расійскага этнаграфічнага музея. Зацікавілі слухачоў ягоныя нестандартныя разважанні пра шляхі развіцця сучаснай этнаграфіі.

Сенсацыяй канферэнцыі зрабіўся даклад супрацоўніка РНБ С. Жэмайціса, у якім ён паведаміў пра сваё адкрыццё: ім знойдзены унікальны прававы акт — Прывілей 1440 г., дадзены Наваградскай зямлі Казімірам Ягелонам /Ягайлавічам/. Дакумент уяўляе сабой ліст пергаменту памерам 39 на 41 сантыметр, на якім кірылічнымі літарамі напісаны тэкст Прывілею. Ён складаецца з 20 артыкулаў, 7 з каторых датычаць дзяржаўнага права, 8 — грамадзянскага, 2 артыкулы закранаюць крымінальны, а 3 — працэсуальны кодэкс.

Практыка Прывілеяў, распаўсюджаная ў XV стагоддзі, падрыхтавала аснову для стварэння Статута Вялікага княства Літоўскага, і знойдзены С. Жэмайцісам дакумент — яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму: шмат якія артыкулы амаль без зменаў паўтараюцца потым у Статуце ВКЛ. Пра існаванне гэтага дакумента гісторыкі ўвогуле не ведалі: спасылак на тое, што Прывілей атрымала і Наваградская зямля, не мелася ў вядомых навукоўцам гістарычных крыніцах.

Адметнасцю даклада было і тое, што С. Жэмайціс не толькі паведаміў пра знаходку, але і высветліў гісторыю дакумента. Доўгі час Прывілей знаходзіўся ў гарадскім архіве Наваградка, а потым належаў сям'і Маскевічаў, сваякамі якіх былі шчорсаўскія Храбтовічы, і, верагодна, праз іх дакумент трапіў у славутую бібліятэку Храбтовічаў, вяртанне якой на Радзіму, па словах А. Мальдзіса, амаль што вырашана. Шляхі, якімі Наваградскі Прывілей апынуўся ў РНБ у 1929 годзе, пакуль не высветлены, бо сам дакумент не пашпартызаваны і ляжаў неапрацаваны да апошняга часу.

Жывую хвалю непасрэднасці і шчырай эмацыянальнасці ў нетаропкую плынь акадэмізму, якім вызначаўся пачатак канферэнцыі, унеслі «госці», дакладней — яе блізказамежныя ўдзельнікі: Л. Бойка /Салігорск/, А. Смалянчук і Г. Семянчук /абодва з Гародні/, Віталь Скалабан /Мінск/. Апошні перадаў прывітанне і падзяку ад «Беларускай энцыклапедыі» за дапамогу навукоўцаў Санкт-Пецярбурга гэтаму выдавецтву. В. Скалабан прачытаў кароткі, але вельмі цікавы даклад, у якім засярэдзіўся на дзейнасці акадэміка Карскага па аднаўленні дзяржаўнасці на Беларусі ў 1917—20 гадах і, па сутнасці, адкрыў малавядомыя старонкі жыцця славутага вучонага.

Вёў канферэнцыю сябра аргкамітэта Міжнароднай Асацыяцыі беларусістаў пецярбургскі даследчык М. Нікалаеў. У заключным слове ён падзякаваў дырэкцыі РНБ за падтрымку ў правядзенні канферэнцыі, выказаў думку аб неабходнасці надрукаваць матэрыялы канферэнцыі.

А на заканчэнне варта прыгадаць пажаданне В. Грыцкевіча, каб такія навуковыя канферэнцыі сталі рэгулярнымі, штогадовымі, бо толькі тады падмурак, закладзены сённяшняй канферэнцыяй, ды і сам будынак беларусістыкі, якая адраджаецца на нашых вачах, будуць трывалыя.

**Анатоль КІРВЕЛЬ, сябра МАБ**

*г. Санкт-Пецярбург*

# БКГ ВЫДАЕ, БКГ ЛАДЗІЦЬ...

Беларуская каталіцкая грамада паслядоўна праводзіць ідэю беларусізацыі касцёла ў шырокім рэчышчы нацыянальнага адраджэння ў незалежнай краіне. На грамадскіх пачатках, не маючы сталай дзяржаўнай падтрымкі, Грамада выдае шмат духоўнай літаратуры. Гэта і касцельныя песні, спеўнік для змешанага хору, тэксты і музыка якіх былі падрыхтаваны святарамі-беларусамі Я. Германовічам, У. Чарняўскім, а таксама К. Каганцом дый іншымі дзеячамі беларускага Адраджэння з нашаніўскай пары і пазнейшых часоў. Шмат зрабіў для падрыхтоўкі спеўніка сябра Грамады беларусаў-католікаў выкладчык Беларускай музычнай акадэміі У. Неўдах. Варта нагадаць факсімільныя выданні на беларускай мове лацініцай, што калісьці, падчас польскай акупацыі, друкаваліся ў Вільні ў 20-х — 30-х гг. Яны сведчаць, што беларускае каталіцкае духавенства спрыяла абуджэнню ў Беларусі хрысціянскіх пачуццяў і беларускай свядомасці. Гэта таксама факсіміле «З гісторыі апалагетыкі хрысціянскай», укладзенай кс. Я. Рэшэцем у 1928 г. і «Голас душы. Кніжка для набажэнства для беларусаў-католікаў» кс. К. Стэповіча /II выданне, папраўленае і дапоўненае, 1934 г./. Унікальнае перавыданне — «Дзённік кс. Стэповіча /К. Сваяка/» — творчы лёс якога, трагічна абарваны сухотамі, так сумна нагадвае лёс М. Багдановіча.

Беларуская каталіцкая грамада па-свойму годна прынесла свае віншаванні і прадстаўніку Ватыкана, папскаму нунцыю, архіепіскапу Габрыэлю Мантальва, які сёлета ў сярэдзіне траўня ўручыў у Мінску даверчыя лісты Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. Падчас багаслужбы ў Мінскім катэдральным касцёле прадстаўнікі кіраўніцтва Грамады ад імя вернікаў-беларусаў перадалі паслу Ватыкана булу, тэкст якой заключае прывітанне з нагоды ўступлення на пасаду, пажаданні плённай дзейнасці на дабро ўсяму каталіцкаму свету і беларускаму народу. Тэкст быў напісаны на італьянскай і беларускай мовах. Сама форма булы, яе аздабленне, знешні выгляд світка, накручанага на адмысловы цыліндр, — праца вядомага ў Еўропе беларускага мастака П. Семчанкі. Вітанне, прамоўленае да нунцыя на італьянскай і беларускай мовах сябрам БКГ спадаром А. Жлуткам, даследчыкам Скарынаўскага цэнтра, было сардэчна сустрэта як прадстаўніком Ватыкана, так і прысутным духавенствам, шматлікімі вернікамі.

Месяц травень быў для культурнага жыцця «азелянёны» і вельмі шчырай выставай, што мела назву «Бог — мой сябра». Ідэя яе правядзення нарадзілася ў Задзіночанні каталіцкай моладзі Беларусі, што ўтварылася пры Беларускай каталіцкай грамадзе, якая гэтую ідэю падтрымала, як і вернікі парафіі мінскага касцёла Святой Тройцы. Разам з Літаратурным музеем М. Багдановіча і ў яго памяшканнях і была наладжана вельмі багатая па колькасці прац і вобразнасці экспазіцыя работ дзяцей з усёй Беларусі, у якой упершыню на Беларусі тэма Бібліі праявіла свае невычэрпныя магчымасці для дзіцячай творчасці. Першую прэмію аргкамітэта атрымала 13-гадовая Ганна Макей з Мастоўскага раёна, з вёскі Лаўна.

І вось адбылася яшчэ адна падзея, якую ўсе католікі звязваюць з адраджэннем духоўных традыцый у Мінску і ўвогуле на Беларусі. 13 чэрвеня прайшлі працэсія і набажэнствы з нагоды Святога Божага Цела. Божае Цела, якое кожны католік можа штодзённа сімвалічна спажываць у форме хлебнай аплаткі падчас набажэнства, сімвалізуе непарушную вялікую повязь з Богам, яго Прысутнасць і Клопат аб зямной пастве. Таму гэтае Свята так гуртуе вернікаў.

**Францішак НЁМАНЕЦ**



# ВЁСКА, САЦРЭАЛІЗМ І «ТАРАШКЕВІЦА»

## ЛІСТ АНДРЭЮ ФЕДАРЭНКУ

Добры дзень, Андрэй! З цікавасцю прачытаў вашу размову з Юрасём Залоскам /«ЛіМ», 9.4.93/, на якую, адчуваю, адгукнуся не адзін я. Падзяляю шмат якія назіранні і высновы, выказаныя ў гэтым дыялогу, далучаюся да вашага непакою, клопату аб якасных зрухах сучаснага мастацкага слова /пераважна празаічнага/ у Беларусі на зыходзе XX стагоддзя. Адразу ж, перш чым спрабаваць паразважаць над асобнымі момантамі вашай гаворкі, хачу засведчыць свае сімпатыі і да вашых твораў і да вас, як, несумненна, змястоўнай асобы і перспектыўнага аўтара. Уважліва сачу за ўсім, што з'яўляецца з-пад вашага пяра ў апошнія гады. Лічу, што поруч з Хрысцінай Лялько, Алесем Наварычам, Ірынай Жарнасек, Уладзімірам Ягоўдзікам, Алесем Асташонкам, Сяргеем Кавалёвым, Барысам Пятровічам, Анотолем Казловым, Вітаўтам Чаропкам, Сяргеем Астраўцовым, Уладзімірам Сцяпанам, Вітаўтам Мартыненкам, Уладзімірам Дзяжко /хай даруюць тыя, каго не згадваю, бо ведаю пра іх меней/ у нашай прозе досыць выразна заяўляе пра сябе наймаладзейшая генерацыя, якой за эпітэт «малады» зусім не варта крыўдаваць, бо, вядома ж, гэты стан не доўжыцца вечна.

Менш за ўсё хацелася б, каб гэтыя мае радкі да вас успрымаліся як лекцыя-маралізацыя, тым болей — як набор бясспрэчных заўваг, расфасаваных у кананічныя формы ўсёведання і валодання абсалютнай ісцінай. Прызнаюся, ніколькі не імкнуся да навязвання сваіх меркаванняў і поглядаў, бо і сам не з'яўляюся прыхільнікам той праматы, якой вылучаецца гарматны ствол. Свет увогуле /не кажучы пра мастацтва/ тым і цікавы, што ў ім разнастайнасць, паліфанізм выступаюць як нармальныя і неабходныя з'явы. Непрыняцце аднатыпнасці, аднаварыянтнасці — амаль заўжды і адмаўленне стэрэатыпу і мыслення, і дзеяння. У гэтым сэнсе, падзяляючы права кожнага на ўласную пазіцыю, я ваш прыхільнік. Таму, спадзяюся, што ў прадузятасці майго стаўлення да вашых думак вы мяне падазраваць не будзеце.

Што мне імпануе ў вашых адказах? Менавіта жаданне не быць аракулам, імкненне пазбягаць катэгарычнасці, імператыўнасці ацэнак, натуральнасць і арганічная сціпласць, якая не прымае ні позы, ні /няхай нават авансам/ высокіх і пахвальных слоў у свой адрас. На пачатку творчага шляху гэта не так і мала, бо ведаю шмат прыкладаў, як ускружыла ранняя пахвала не адну галаву, як потым усе напрарочаныя далячыні і абяцаныя задумы губляліся ў «дымке туманной», як ішло таптанне на месцы, а то і страта сябе, ранейшага — свежага, па-юнаму ўражлівага /у паэзіі гэта закранула не аднаго прадстаўніка і майго пакалення/. Таму, калі Федарэнка гаворыць пра сябе, як пра «звычайнага сярэдняга літаратара, што мала чым вылучаецца ад тых, з кім разам прыйшоў у літаратуру», у гэтым якраз і бачыцца мне добры знак, які нараджае спадзяванні на рост, пасталенне творцы, на тое, што «зорная хвароба» не зацягне яго ў свой палон.

Бадай, адной з галоўных дамінант у вашай размове сталася тэма «традыцыйнага метаду ў прозе». І калі вы сцвярджаеце, што «ў беларускай прозе амаль скрозь дамінантаю была... традыцыя сацыялістычнага рэалізму», адносячы да яе і Быкава, і Стральцова, і Шамякіна /не пазначаючы між імі ніякіх адрозненняў/, а сябе выключаеце з гэтага літаратурнага напрамку, дакляруючы: «...я не пішу гэтым метадам», то да вас тут узнікае не адно, а цэлы шэраг няпростых пытанняў.

Тым болей, што далей ідзе такая «расшыфроўка» пазіцыі, якая яшчэ гусцей усё зашыфроўвае: «Я прыхільнік чыстага, аб'ектыўнага рэалізму, і хачу, у меру сваіх, вядома, здольнасцей, толькі «ставіць дыягназ». Я не выбіраў гэты метад неяк знарок, проста ён сам склаўся як найбольш адэкватны для майго мыслення...». А яшчэ далей — наступнае: «Г. зв. традыцыйную літаратуру — а ў беларускай літаратуры традыцыйнай я называю сацрэалістычную — я адношу ў большасці сваёй да літаратуры добрай». Тут, як відаць, айчыннае прыгожае пісьменства савецкай пары выступае ў рэчышчы традыцый прагрэсіўнай сусветнай літаратуры, але выступае суцэльным масівам, без вызначэння ні яе рэльефу, ні яе гістарычна-нацыянальных адметнасцей, ні яе індывідуальных спецыфічных рысаў. Па сутнасці, вынікае, што ўсе лепшыя творцы паслякастрычніцкай пары — апалагеты і адзінай ідэалогіі, і стэрэатыпнага светаўспрымання, і нязменнага тэматычнага дыяпазону /«той жа рэалізм, той жа гуманізм, тая ж вера ў чалавека працы...»/. Усё адно і тое ж — і ва ўсіх?

Па якой жа шкале вызначаецца вамі роднасць Мележа, Быкава, Стральцова, Караткевіча, Адамчыка, Шамякіна, Навуменкі, Дамашэвіча, Пташнікава? Толькі на той падставе, што ў іх шмат агульнага матэрыялу рэчаіснасці /вёска, вайна/, што яны ўсе, без выключэння, успрымаюць працавітасць чалавека як адну з найвышэйшых каштоўнасцей, што амаль усе звяртаюцца даволі часта да асабіста зведанага, убачанага і перажытага, г. зн. — рэальнага? Аднак, ці гэтага дастаткова, каб аб'ядноўваць кагорту такіх усё-ткі розных, непадобных аўтараў у адзіную плынь «традыцыяналістаў»? Бясспрэчна, вопыт папярэднікаў кожным з тых пісьменнікаў, што тут згаданы, не ігнаруецца, не адмаўляецца, больш таго — ён у многім фарміруе іхнія асабістыя мастакоўскія канцэпцыі, вызначае і духоўныя, і грамадскія арыенціры, якім суджана трывалая, устойлівая /нярэдка без карэннай, глыбіннай трансфармацыі/ адданасць з першых твораў. І я, напрыклад, не магу асабліва дакараць Шамякіна за настальгію па ўчарашнім дні /«Аповесці Івана Андрэевіча», «Маладосць», 1993, N 1/, таму што там у яго ключавога персанажа было тое, чаго ён не мае /і занадта гіпербалізуе гэтую адсутнасць/ сёння. Якраз у гэтым — адна з асноўных матывацый прыведзеных твораў. Але ж не будзем забываць, што большасць т. зв. простых савецкіх людзей не мела тады і дробнай долі таго камфорту, аб якім з такім зразумелым надрывам згадвае галоўны шамякінскі герой.

А ў тыя часы не ўсім было так лёгка, як можа здавацца зараз, не ўсім было ўсё ясна-зразумела, не ўсё ўспрымалася без цяжкага роздуму, сумненняў і расчараванняў. Пераканаўчы таму прыклад — і творы, і асоба Міхася Стральцова, якога з поўным правам, без аніякіх нацяжак можна лічыць класікам. Здаецца, не так і шмат ім напісана, але ж — нічога другараднага, «праходнога», на гэтак званую патрэбу дня, усё — ад «Блакітнага ветру» і да «Смалення вепрука» — з'явы, якія спасцігаць і сёння, і заўтра.

У той, як празвалі яго, «застойны» час Стральцоў, у адрозненне ад многіх, кожнай клеткай сваёй ранімай істоты супраціўляўся ўсялякага роду фальшу, не прымаў яго як сацыяльную прыдуху, якая стрымлівала, а то і глуха перакрывала доступ кіслароду да асобы, перш за ўсё сумленнай, ненахрапістай, той, што не жадала мімікрыі, прыстасоўвання да сітуацый /асацыятыўна ўсплываюць «Прыстасаванцы» Панчанкі/, якая свядома не магла ўключыць сябе ў шэрагі актыўных «барацьбітоў за светлае будучае». А яно, тое будучае, паўставала ў такіх дэфармаваных выявах, дзе звычайная шчырасць, адкрытасць, пазбаўленыя агрэсіўна-ўчэпістага канфармізму, успрымаліся ў лепшым выпадку як донкіхоцтва. Гэта — у сферы чыста маральнай, духоўнай пазіцыі мастака, а яна не магла не рухаць яго слова ў напрамку спавядальнай паўнаты і даверу да рэалій, а не да цвёрдага прынцыпу захавання рафініраваных прапорцый між добрым і дрэнным. Але ж ёсць яшчэ і субстанцыя ўласна творчага працэсу, у якім выпрацоўваецца і крэпне самастойная, індывідуальная манера, фарміруюцца стылёвыя адметнасці майстра, якія сведчаць не толькі пра яго ўмельства валодаць словам. Тут не шкодзіць прыслухацца і да Д. Ліхачова, да яго парады разглядаць стыль і «як з'яву літаратурнай мовы» і «як пэўную **сістэму** формы і зместу».

Я падзяляю перакананне А. Асташонка, што лепшае апавяданне ў беларускай літаратуры — стральцоўскае «Смаленне вепрука». Але ж поруч з ім — і такія жамчужыны, як «На чацвёртым годзе вайны», «Свет Іванавіч, былы Дон-Жуан», «Сена на асфальце», як «Загадка Багдановіча» і «Адзін лапаць, адзін чунь», як паэтычныя кнігі «Ядлоўцавы куст», «Цень ад вясла», «Мой свеце ясны», як эсэ і крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, рэмінісцэнцыі, эпісталярныя рэчы... Гэта надзвычай рэдкі выпадак у літаратуры, калі амаль усё — і значнае, па-сапраўднаму новае, і эстэтычна спелае і паўнакроўнае, з надзейным запасам трываласці. Тут Стральцова можна ў нас паставіць поруч з Багдановічам, які пры ўсёй жанравай, структурнай і рэчаіснаснай шырыні таксама не быў усяедным, не імкнуўся ахапіць выключна ўсе тэмы — ад аграрнікаў да пажарнікаў.

Вось вы, Андрэй, называеце Стральцова «сацрэалістам» — вядома, не ўкладваючы нічога нізкага ці кампраметуючага ў гэтае паняцце, аддаючы належнае таму часу, які выпаў на долю мастака. Не буду надта паглыбляцца ў самую катэгорыю гэтага творчага метаду, які сёння па многіх параметрах сур'ёзна пераглядаецца, але мушу зазначыць адно: як бы тэарэтыкі-абаронцы згаданага напрамку ні руліліся рэанімаваць яго, сцвярджаючы і ягоныя нібыта неабмежаваныя магчымасці, і яго дэмакратычнасць, бязмежнасць у адносінах да структурных пошукаў і г. д. /дзе ледзь ці не ўсё можна ўпіхнуць і казуістычна апраўдаць/, прывязваць Стральцова выключна да сацрэалізму — па-мойму, істотна звужаць і прымітывізаваць складаную спадчыну майстра. /Не сакрэт, між іншым, што сама дэфініцыя памянёнага метаду была прапісанай нават не ва ўсіх літаратурах былога сацлагера — у польскай, напрыклад/. Тут ужо ўзнікае ўражанне, што /свядома ці не/ творчыя набыткі вельмі неардынарнага, шмат у чым наватарскага аўтара нівеліруюцца і спрошчваюцца, падганяюцца пад ранжыр многіх іншых. А тут і можна якраз жадаючым падыскутаваць...

А як стасуюцца многія аповесці Быкава з артадаксальнымі пастулатамі сацрэалізму?

Увогуле, я шмат у чым салідарны з вамі, мне таксама даспадобы многія рэчы тых аўтараў, на каго вы арыентуецеся, разумею я, што ахапіць усю панараму найлепшых здабыткаў у гэтым выпадку вы проста не маглі альбо не прагнулі абцяжарваць гутарку доўгім пералікам іменаў. І ўсё-ткі, для мяне /не ведаю, як для каго/ апавяданні ні разу не ўпамянутых у дыялогу Янкі Брыля, Яна Скрыгана, Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі, Алеся Жука, аповесці Віктара Казько /сюжэтныя яны ці не; вы ж лічыце, што «літаратура бессюжэтная» — «кепская»/ — адны з мацнейшых старонак нацыянальнай прозы. Дарэчы, ці няма пярэчання між вашымі, прыведзенымі вышэй, словамі і наступнымі: «...калі пішу, менш за ўсё думаю, традыцыяналіст я ці яшчэ нехта — проста пішу... Не ведаю, куды ісці і што. Мяне асабіста заўсёды... цягнула пісаць нешта вольнае, не думаючы, які гэта жанр, нічым сябе не скоўваючы...»?

Асаблівую нязгоду ў мяне выклікае ваша энергічна-наступальнае адстойванне тэзісу актыўнага вяртання «тарашкевіцы» ў сучасную літаратурную мову. Па-мойму, гэта

# А ПОМНІЦЦА ШМАТ...

Яшчэ некалькі гадоў назад паліцы кнігарань былі літаральна завалены ўспамінамі колішніх кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Кнігі гэтыя выклікалі далёка не адназначнае ўспрыманне. На жаль, сярод іх сустракалася — пры тым і нямала такіх, аўтары якіх кіраваліся адным: як выгадней падаць сябе, узвялічыць уласную ролю ў разгроме фашызму. Тым самым у вачах чытача падрывалася павага да мемуарнага жанру ўвогуле, а ён жа, калі апавядальнік піша непрадузята, а аб'ектыўна, мае неацэннае значэнне, як дакумент эпохі. Пры ўмове, што і сам мемуарыст — фігура неардынарная...

Пра гэта падумалася, калі чытаў кнігу Заіра Азгура «Тое, што помніцца...», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Уласна кажучы, чацвёртую з аналагічнай серыі. Тры папярэднія былі прыхільна сустрэты і крытыкай, і чытачамі. І вось чарговая, на гэты раз, як сведчыць Заір Ісакавіч у прадмове, апошняя — «кніга завяршае мой аповяд пра час і пра сябе».

Значыць, у пэўнай меры і падсумаванне пройдзенага шляху: «Я, як кажуць, размяняў дзевяты дзесятак. Цяпер зробленага не пераробіш і пражытага не перапішаш». І ў іншым месцы гэтага ўступу-звароту да чытача: «Я — сын свайго часу. Мяне гартаваў ён, радаваў, засмучаў, уцягваў у сумненні, умацоўваў. Я ўвабраў у сябе яго азарэнні і яго памылкі...»

Аповяд пра час і пра сябе... А хіба не важны ён для нас, калі прыняць пад увагу Асобу мемуарыста? Вядома, можна па-рознаму ўспрымаць здзейсненае Азгурам-скульптарам, але зробленае ім з гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва, а калі шырэй — гісторыі нацыянальнай культуры не выкрасліш. Як жа тут не прыслухацца да голасу таго, хто меў магчымасць сутыкацца з самымі рознымі людзьмі.

З. Азгур не проста падае творчыя, можа, нават у большай ступені жыццёвыя, партрэты сваіх сучаснікаў, хоць матэрыялы падобнага мемуарна-нарысавага плана ў кнізе пераважаюць. Адначасова ў яго развагах прысутнічае і публіцыстычны роздум пра эпоху, у якой сталеў, гартаваўся і развіваўся ягоны талент. Аўтар, азіраючыся на пройдзеныя гады, з вышыні іх акідваючы позіркам здзейсненае, разважае не толькі аб уласных набытках ці праліках, а і задумваецца, ці так жылі ўсе мы, ці той ідэі, якой трэба было, прытрымліваліся. Ведаючы камуністычную арыентацыю апавядальніка, хочацца з ім у нечым і паспрачацца. Ды, бадай, важны не рознагалоссі, а найперш тое, што аб'ядноўвае, робіць аднадумцамі.

Усе мы, хто жыве на гэтай зямлі незалежна ад сваёй нацыянальнай прыналежнасці, — дзеці адной маці-Беларусі. Як жа не любіць яе, як не шанаваць беларускую мову? У сувязі з гэтым заслугоўваюць увагі высновы З. Азгура, што гучаць у першым жа артыкуле «Каб разыходжанняў не было між намі...»: «Я люблю беларускую гаворку. Ёсць перажыванні і меркаванні, якія на іншай мове мне перадаць цяжка, таму ў нейкія моманты я проста не знаходжу адпаведнага і гэтаксама выразнага слова ні ў рускай, ні ў яўрэйскай мове. Я не разумею людзей, якія абыякава ставяцца да роднага слова і думаюць, што гэтым дэманструюць як быццам сваю высокую культурнасць, калі вядуць размову, у думках перакладаючы саміх сябе на рускую мову. Часцей за ўсё ў падобных выпадках атрымліваецца нешта змешанае: ні па-руску, ні па-беларуску. Яшчэ болей засмучаешся, калі дзеці растуць у непавазе да роднай мовы».

Аднак павага да свайго ўласнага ў кожнага па-сапраўднаму культурнага чалавека /у гэтым З. Азгур прынцыпова перакананы/ ні ў якім разе не заслоніць лепшага, што створана іншымі народамі. Таму з такой павагай і ўдзячнасцю схіляе ён галаву перад талентам скульптараў С. Меркулава /«...Уваходжу, ваяльнік, у тваю майстэрню...»/, В. Мухінай /«Вера — ад слова «вернасць»/, Б. Пастарнака /«Жывы цуд»/...

Ды, пэўна, нам больш прыйдуцца даспадобы меркаванні З. Азгура пра дзеячаў беларускай літаратуры і мастацтва. Асабліва, калі ўлічыць, што ён, як правіла, не абмяжоўваецца выказваннямі пра іх

пройдзены этап. Ці варта захапляцца тым, што ўспрымаецца сёння па-іншаму, нярэдка — архаічна? Так, наша мова, у тым ліку літаратурная, «кніжная», прайшла ў гэтым стагоддзі няпростыя шляхі свайго развіцця, было ў яе і тое /у 20-ыя асабліва/, што хочацца нам рамантызаваць, падаць у арэоле незвычайнай пекнаты, прыстасаваць да сённяшняга карыстання. Але ці апраўдана гэта, ці мэтазгодна? Не прыжыліся ж ні на вашай Мазыршчыне, ні ў блізкім ад яе маім Рэчыцкім раёне ні «пляны» з «глёбусамі», ні «кілё» з «лёканам», ні «клясы» з «блёкамі» ды «Эўропамі» /якія падчас успрымаюцца як спланаваны ці бяздумны гвалт над мовай, альбо карыкатура на яе/, хоць і было ж, што ў гісторыі асветы яны існавалі, прывіваліся...

Моўныя ж элементы шліфаваліся, як марскія каменьчыкі, дык навошта ж зноў вяртацца да таго, што яшчэ больш адштурхне ад той мовы, да якой пачынаюць пакрысе прыглядацца самі беларусы, адвучаныя ад усяго роднага, крэўнага не столькі заезджымі, колькі дамарослымі «звышінтэрнацыяналістамі-манкуртамі»?

Несумненна, што многія проста не ведаюць аб тым, што ў гэтай плыні «лёкання» шмат чысцейшай вады паланізмаў, аб чым слушна і доказна пісаў не так даўно ў «ЛіМе» Кастусь Цвірка. І не толькі мяккія «эль», але і словы, якія касяком валакуць з польскай мовы, накшталт «выстава», «газэта», «мапа», «ровар»... Таму я згодзен з тым «паважаным пісьменнікам», вашым апанентам, які з трывогай мяркуе, што з-за такой моўнай «перабудовы» сапраўды «чытачы ад нас адвернуцца». Як мне здаецца, Андрэй, гэта не тое, што павінна цяпер у першую чаргу не даваць спакою творчаму роздуму... Ёсць столькі іншых праблем, да якіх дай Бог хоць бы наблізіцца!

Не ўсё я магу ўспрыняць і ў вашым адказе на апошняе пытанне. Сцвярджаючы, што «вёска — гэта нешта адзіна сапраўднае, нейкі светлы разумны куточак у свеце вар'яцтва...», не-не ды й узнікае пытанне: «А ці не ідэалізуем мы яе — вёску?» Я далёкі, безумоўна, ад таго, каб разглядаць, як вешчуны пралетарскай рэвалюцыі, вясковае жыццё выключна праз прызму «ідыятызму», што доўга было ледзь не зацверджанай нормай. Але чаму ж усё-ткі яе так дружна пакідалі раней і пакідаюць і зараз, у тым ліку — і мы з вамі? Няўжо ўсё там так гарманічна? Вядома ж, не. Пра гэта і вы самі няблага ведаеце і кажаце ў дыялогу.

Відавочна, што любоў да свайго вытоку — нямногае з таго святога, што яшчэ засталося ў гэтым свеце. Але ж і колькі драматычнага ў гэтай любові, колькі неадназначнага /«Люблю Отчизну я, но странною любовью!» — вось і яшчэ адно прызнанне класікі на гэты конт, але ў іншай плоскасці, дзе погляду ўласціва выразная шматмернасць, псіхалагічная супярэчлівасць.../.

Вось, у асноўным, тое, чым хацеў падзяліцца з вамі. Прабачце, калі ў нечым не так трактаваў альбо нешта ўспрыняў інача — неадпаведна вашым намерам. Шчыра жадаю быкаўскай і стральцоўскай вышыні /дзе столькі глыбокага болю, што адно «мёртвым не баліць»/, пільнага зроку і чуйнага слыху ў шматгалосым свеце, у якім аж залішне сёння гвалту з калатнечай, але ж — і зараз нараджаюцца дзеці, і свецяць зоркі над хаосам быцця... Таму — стварайце! Дзеля жыцця, дзеля Бацькаўшчыны.

**Віктар ЯРАЦ**

*г. Гомель*

---

творчасць, а прыводзіць шмат малавядомых, а то і зусім невядомых фактаў з іх жыццёвай і творчай біяграфіі.

У полі ж зроку апавядальніка — самыя розныя людзі. Гэта і паэт І. Харык / «Дзень ёсць дзень...»/, і драматург В. Вольскі /«Пяро упэўненай чаканкі»/, і акцёры М. Зораў /«Свеціцца душа чалавека...»/, Г. Глебаў /«Вы з намі, Глеб Паўлавіч!»/, рэжысёр і акцёр М. Міцкевіч /«Будаўнік з лукавай усмешкай»/...

А колькі цёплых, я б сказаў сардэчных слоў знаходзіць З. Азгур, узнаўляючы воблікі жонкі Я. Коласа /«Вернасць сябра — акрыляе»/ і маці Я. Купалы /«Яе вачыма абагрэты»/?! Сюды ж прымыкае і аповяд пра А. Аладаву /«Выпраменьванне дабрыні»/, якая, як вядома, доўгі час узначальвала Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.

Запомніў З. Азгур вельмі шмат. Гэта — калі меркаваць толькі па чацвёртай частцы кнігі «Тое, што помніцца...» Калі ж сабраць усе іх разам, атрымаецца багаты і змястоўны роздум слыннага майстра пра час, у якім ён жыў і жыве, пра людзей, з якімі лёс падараваў яму радасць сустрэч.

**А. В.**

# ВОСЬ ТАКІ «ПРЫНЦЫП»...

## З НАГОДЫ ВЫХАДУ ДАВЕДНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ»

Даўно чакалася гэтае свята — узяць у рукі поўны бібліяграфічны даведнік па беларускай літаратуры. Кожны літаратуразнавец ведае, колькі часу і сіл трэба патраціць, каб адшукаць у моры друкаванай прадукцыі многіх стагоддзяў патрэбную публікацыю. І вось пад канец мінулага года доўгачаканае свята прыйшло — на паліцах кнігарняў стаў першы том біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», які выйшаў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Гэта ж так лёгка будзе цяпер працаваць даследчыкам нашай літаратуры! Адгарні старонку з імем любога, які толькі цябе цікавіць, пісьменніка, і перад табой увесь ён, як на далоні, з усёй яго творчасцю, з усімі яго публікацыямі, пачынаючы ад самай першай, можа, даўно забытай нават ім самім. Толькі той, хто звязаны з літаратуразнаўствам, з даследаваннем гісторыі літаратуры, можа па-належнаму ацаніць каштоўнасць слоўніка і ў душы падзякаваць усім, хто шчыраваў над ім.

Першая вартасць слоўніка, якую не мог не адзначыць чытач, гэта даволі падрабязныя, змястоўныя жыццяпісы пісьменнікаў Беларусі, што там змешчаны. Аўтары здолелі сабраць усе самыя важныя, самыя істотныя біяграфічныя звесткі, якія дапамагаюць найбольш поўна ўявіць воблік кожнага пісьменніка, яго ролю ў літаратуры. У гэтым сэнсе даведнік набліжаецца да вядомага мнагатомнага «Польскага біяграфічнага слоўніка», які ўжо многія дзесяцігоддзі выдаецца ў Варшаве і якім з поспехам карыстаюцца і беларускія даследчыкі.

Слоўнік «Беларускія пісьменнікі» дае магчымасць зазірнуць у самыя вытокі нашага пісьменства, пазнаёміцца з усім багаццем беларускай літаратуры ад далёкай старажытнасці да нашых дзён. У двух першых тамах мы пабач з такімі славутымі дзеячамі культуры і асветы Беларусі, як Афанасій Філіповіч, Сымон Будны, Андрэй Волан, Фёдар Еўлашоўскі, Ефрасіння Полацкая, Лаўрэнцій Зізаній, знаходзім і імёны менш вядомых палемістаў і мемуарыстаў старажытнасці — Анастасія Сялявы, Іосіфа Будзілы, Беняша Буднага і інш. Дарэчы, не абмінае слоўнік і малавядомых аўтараў навейшых часоў. Ці шмат хто з нас ведае, напрыклад, такіх беларускіх пісьменнікаў ужо нашага стагоддзя, як Паўлюк Ананьеў, Апанас Атава, Хведар Бужан, Альгерд Бульба, Янка Быліна, Віктар Вальтар, Лявон Віталін-Дубейкоўскі, Наталля Вішнеўская? Між тым кожны з іх — факт нашай літаратуры.

Здаецца, упершыню за ўсе пасляваенныя гады так шырока знаёміць слоўнік і з творчасцю беларускай эміграцыі. Усе мы цяпер можам толькі парадавацца вяртанню ў нашу літаратуру і Вінцука Адважнага, і Наталлі Арсенневай, і Юркі Віцьбіча, і Антося Галіны /малодшага брата Якуба Коласа/, і шмат іншых. Вельмі добра, што знайшлося ў даведніку месца і для беларускіх пісьменнікаў цяпер замежнай Беласточчыны. Слоўнік як бы паказвае нам, як збяднялі мы сваю літаратуру, штучна выкрэсліваючы з яе цэлую кагорту пісьменнікаў, якіх параскідала доля па шырокім свеце.

Імкнучыся паказаць рэальную гісторыю беларускай літаратуры, аўтары слоўніка не абышлі маўчаннем і творчасць тых літаратараў, якія адыгралі ў ёй негатыўную ролю. Як скажам, сумнавядомы крытык-агітабельшчык Лукаш Бэндэ. Усё правільна: хай чытач ведае ўсю складанасць нашай літаратурнай гісторыі.

Гартаючы першыя тамы гэтага каштоўнейшага выдання, уявачавідкі бачыш тую тытанічную работу, якую прарабілі нашы навукоўцы. Без перабольшання можна сказаць, што выхад біябібліяграфічнага слоўніка — важная вяха ў гісторыі беларускай літаратуры.

Але выданне мела б яшчэ большую каштоўнасць, калі б аўтары былі аб'ектыўнымі і паслядоўнымі да канца, каб яны кіраваліся толькі неабходнасцю як мага поўнага асвятлення гісторыі нашай літаратуры, адкінуўшы ўсе штучныя, устарэлыя канцэпцыі, суб'ектыўныя меркаванні.

Калі я першы раз узяў у рукі слоўнік, то адразу ж кінуўся глядзець бібліяграфію тых пісьменнікаў, якія мяне цікавяць як даследчыка. З нецярпеннем адгортваю старонку, на якой павінна быць згодна з алфавітам імя беларускага польскамоўнага паэта XIX стагоддзя Антонія Эдварда Адынца, які нямала пісаў пра родную Беларусь, пра яе людзей. І вось першае расчараванне — няма там Адынца! Недагляд? Але ж не, выпадкова выпасці з тома ён не мог: надта ж прыкметная постаць у літаратурным працэсе XIX стагоддзя Антоні Адынец, блізкі сябар Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі. Хачу зразумець, чаму ж складальнікі не ўключылі яго ў слоўнік, чым ён перад імі правінаваціўся. Можа, яны абмежаваліся толькі беларускамоўнымі пісьменнікамі? Але і думку такую цяжка дапусціць. Мастацкі летапіс Беларусі, пачынаючы з далёкай старажытнасці, стваралі на многіх мовах — стараславянскай, лацінскай, польскай, старабеларускай і сучаснай беларускай, не кажучы пра іншыя мовы. І праўда, у слоўніку бачу пісьменнікаў, якія пісалі на ўсіх гэтых мовах. Нават уключаны тыя літаратары Беларусі, якія пісалі на рускай, на яўрэйскай, на літоўскай мовах і лічыліся адпаведна рускімі, яўрэйскімі, літоўскімі пісьменнікамі. Лічу гэта правамерным. Без іх імён нельга да канца зразумець увесь літаратурны працэс на Беларусі. Ды і прыстойнасць тут «соблюдена».

Але чаму ж тады ўсё-такі няма Адынца? Тлумачэнне нарэшце знаходжу ў «Прадмове». Аказваецца, «пачынаючы з артыкулаў пра пісьменнікаў XIX ст. дзейнічае моўны прынцып адбору персаналіяў». Чаму ж тады гэты «прынцып» аўтары адкінулі ў дачыненні да пісьменнікаў савецкага часу? Ага, здагадаўся: бо ўсе савецкія пісьменнікі Беларусі, на якіх бы мовах яны ні пісалі, былі членамі СП БССР! А Адынец і яму падобныя, на жаль, не ўганараваліся гэтага высокага звання!

Згодна з гэтым беспрынцыпным «прынцыпам» за межамі нашага літаратуразнаўства апынулася, я сказаў бы, цэлая эпоха ў гісторыі нашай літаратуры, эпоха, калі афіцыйнай мовай на Беларусі, а значыць і мовай літаратуры была польская мова. Была выкінута літаратура, якая глыбока адлюстравала жыццё Беларусі XIX стагоддзя, усю складанасць грамадскіх узаемаадносін свайго часу, літаратура, якая вырасла на нашай глебе, заснаўвалася на нацыянальнай культуры беларуса, на яго фальклоры; літаратура, якая вяла вайну з векавым цемрашальствам, за вызваленне нашага народа з прыгонніцкага рабства, за свабоднае развіццё яго культуры, у тым ліку беларускай мовы. Выкінута польскамоўная беларуская літаратура, якраз у нетрах якой нарадзілася і пачала, хоць і паволі, але ўпэўнена развівацца і ўласна беларуская літаратура. Як жа тады, шаноўныя прафесары і акадэмікі, чые імёны красуюцца ў пачатку выдання пры пераліку членаў рэдкалегіі, загадаеце працаваць з вашым слоўнікам даследчыкам вытокаў новай беларускай літаратуры, а яшчэ шырэй — вытокаў беларускага нацыянальнага адраджэння, пачынальнікамі якога якраз і былі польскамоўныя пісьменнікі Беларусі?

Ці, можа, не трапіла ў слоўнік польскамоўная літаратура XIX стагоддзя па прычыне боязі, што ён мог бы залішне разрасціся? Але гэта зноў жа не аргумент: раз быў намер паказаць гісторыю развіцця нашай літаратуры — трэба паказаць яе ў поўным аб'ёме, без кастрацыі.

Дарэчы, ці была вялікая патрэба даваць у слоўніку савецкую літаратуру, тым больш нашых аўтараў? Яшчэ раз паглядзець на ўсю нашу аліліўшчыну ў гонар «роднай» партыі і яе геніяльнейшых правадыроў? Ці не лепш было б сканцэнтравацца пакуль што на дасавецкай літаратуры, якая надзвычай слаба распрацавана, якая яшчэ чакае свайго адкрыцця?

І яшчэ адно не магу абысці маўчаннем усё ў тым жа звязку. У прадмове аўтары аб'явілі, што згодна са сваім «прынцыпам» яны не ўключылі ў слоўнік Адама Міцкевіча, вялікага песняра беларускай зямлі. Так, Адам Міцкевіч — польскі паэт, вялікі патрыёт польскай дзяржавы, якой фактычна стала з часам шматнацыянальная Рэч Паспалітая і за аднаўленне якой ён змагаўся пасля яе падзелу ў канцы XVIII стагоддзя. Так, палякі па праву ім ганарацца, па праву лічаць яго сваім, бо пісаў на польскай мове. Але ці ж такі ўжо чужак Адам Міцкевіч нам, беларусам? Яго, Міцкевіча, беларуса па паходжанні, Міцкевіча, які бясконца любіў сваю Беларусь, называючы яе па традыцыі «Літвой», які па-майстэрску паказаў характэо і шчодрасць душы беларускага народа, эстэтычнае багацце яго вуснапаэтычнай творчасці, які першы на ўвесь свет загаварыў аб самабытнасці і прыгажосці вядомай яму з маленства беларускай мовы, Міцкевіча, які ўрэшце сам шырока расчыняў дзверы ў сваіх творах беларускай моўнай стыхіі, ці ж не маюць права і беларусы называць таксама сваім, беларускім, хоць і польскамоўным паэтам? Думаю, любы дасведчаны, культурны паляк паставіцца да гэтага з поўным разуменнем. Дарэчы, я не магу назваць ніводнага беларускамоўнага паэта ад старажытнасці да нашых часоў, хто гэтак бы глыбока, з такой мастацкай сілай паказаў бы гістарычнае мінулае Беларусі, як Адам Міцкевіч. І выключаць яго, як і іншых польскамоўных пісьменнікаў Беларусі, з кантэксту гісторыі беларускай літаратуры — проста недарэчна. Гэта даніна застарэлым, вельмі суб'ектыўным поглядам.

У гэтай сувязі мне ўспомніўся аналагічны бібліяграфічны слоўнік нашых суседзяў «Украінскія пісьменнікі», выдадзены ў пяці тамах яшчэ ў 60-ых гадах. Украінцы, не надта аглядваючыся на некага, узялі ды і ўключылі ў шэрагі ўкраінскіх пісьменнікаў і сваіх сціплых суседзяў, «родам білорусів» Францыска Скарыну, Кірылу Тураўскага, Сімяона Полацкага, Андрэя Рымшу, Васіля Цяпінскага. І, як бачым, свет ад гэтага не здрыгануўся, неяк выстаяў. Ніводнага папроку не з'явілася на старонках беларускага друку. Можа, наадварот, мы павінны толькі ганарыцца, што нашых выдатных дзеячаў культуры так шануюць суседзі, што назвалі іх таксама сваімі. Відаць, немалы ўплыў зрабілі яны і на культуру суседзяў.

Ну, а мы, зацюканыя беларусы, нават сваё ўсё яшчэ баімся назваць сваім, кроўных сыноў Беларусі адлучаем ад роднай зямлі.

Гвалтоўна адлучаючы выдатных сыноў Беларусі ад яе самой, выкідаючы іх з нашай гісторыі, з літаратуры толькі за тое, што яны мелі — няшчасце ці шчасце? — жыць у спольшчанай Рэчы Паспалітай, што яны былі сынамі свайго часу, мы нібы забываем, што на дварэ даўно ўжо іншае стагоддзе, што Беларусь — гэта не «ўсходнія крэсы» польскай дзяржавы, як той-сёй усё яшчэ лічыць.

Дзіўна, вельмі дзіўна глядзець, калі прыязджаюць да нас палякі адзначаць юбілеі выдатных сыноў Беларусі, сусветных славутасцяў, якіх па традыцыі называюць усюды толькі польскімі, а мы тут як бы збоку прыпёку. І не толькі паэтаў, што з вядомых прычын пісалі па-польску, але нават кампазітараў і мастакоў, ураджэнцаў Беларусі, якія «пісалі» на агульнай для ўсіх нас, для ўсяго чалавецтва мове гукаў і фарбаў, мы бяздумна аддаём некаму, з дзіўнай лёгкасцю адмаўляемся ад іх.

Кажучы ўсё гэта, я зусім не рвуся адбіраць у суседзяў нашых славутых сыноў. Я хачу толькі падкрэсліць, што яны — агульныя для абодвух народаў, што кожны народ сам вызначае ролю і месца таго ці іншага дзеяча ў сваёй гісторыі. Гісторыкі ж кожнага з «бакоў» не толькі маюць права, але, мусіць, і абавязаны ўключаць іх у гісторыю роднай краіны, калі яны хочуць быць аб'ектыўнымі.

Выданне «Беларускія пісьменнікі» яшчэ не завершана, праца над ім працягваецца. Таму хочацца верыць, што такі патрэбны кожнаму даследчыку даведнік будзе папраўлены, дапоўнены. Для ўсіх «адлучаных» на чале з вялікім Адамам просіцца дадатковы том /а мо і не адзін/, які мог бы выправіць становішча. Хацелася б, каб першы ў нашай гісторыі фундаментальны біябібліяграфічны слоўнік стаў папраўдзе верным люстэркам далёка не простай шматвяковай дарогі беларускага пісьменства.

**Кастусь ЦВІРКА**

— Але-есь! Ну, ты-ы! Курчэ, ты! Я ж вас усіх люблю...

Даехалі да Мількаўшчыны. У пачатку вёскі тры цёткі валаклі хлеб з крамы. Каля іх спыніліся.

— Ажэшкі шукаеце? З Польшчы? — перапытала адна. — То вам трэба...

— Ат, што ты гаворыш! — перабіла другая, хоць першая нічога яшчэ не паспела сказаць. — То вам трэба так: вам трэба да Болеся, бо ён самы стары, а потым да Нюры, бо яна самая разумная.

На размову падышлі мужчыны з двароў — і перакурыць можна, і быццам пры справе. Стась выцягнуў дыктафон і пачаў накручваць: а хто вы тут, а на якой мове гаворыце, а калі жыць было лепей... Падняўся гвалт, як пры дзяльбе сотак! Мы з шафёрам палезлі з «паланэза» перакурыць. А Стась круціў, круціў і круціў, трэплючыся на трох братніх мовах! А бабы разбіраліся ўжо між сабой, «дур-рная ты, калі тое было!», сунуўся быў мужык — таго выперлі вон. Нарэшце разабраліся. То тут было так, паночку: як была Польшча, то былі ў польскай школе, як сталі нашыя, то вучыліся ў рускай, веры мы праваслаўнай, хаця каталікі таксама ёсць, гаворым папростаму, па-нашаму, бо не вучыліся, жыць было калі як, але можна было... а таго Гарбачова — а каб яго яма завалiла і зямля свянцона паела!

Бабы разышліся і маглі так гавэндзіць да вечара. Таму Стася загналі ў «паланэз» і паехалі. Болеся на дарозе пазналі па прыкметах — ён таксама валок хлеб з «магазына». Каб не марозіць дзядзьку, пасадзілі яго ў «паланэз», а каб не марнаваць час — паехалі адразу да Нюры. Па дарозе і на месцы Болесь прасвячаў: ну каталік, ну паляк. А чаму не паляк? У Польшчы капралам быў... То жыць добра было? То чаму кепска. Хто зямлю меў — то добра: сам сабе гаспадар. А як былі ў мяне 1,5 га — то куды?! І вучыцца не было як: так бы я на афіцэра вывучыўся, а так што ж — капрал. А як у нашых з немцамі ваяваў... «У якіх-то нашых?!» — уклініўся Стась. Ну хай у Саветаў... Але кажу: як у нашых з немцамі ваяваў, то зноў быў старшы сяржант! Начальства, што праўда, дурное было, але цягачы і гарматы амерыканскія, то добры механізм. Чаму па-польску кожны дзень не гавару? Чаму не гавару — з панам вот гавару... На свае восемдзесят з лішкам Болесь выглядаў шыкоўна. Па-польску ён гаварыў горш за Стася, але, як на мой розум, неяк інтэлігентней...

Прыйшла разведка — Нюра чакае. Стась пайшоў да Нюры. Болесь удакладніў, ці ўсе мы з Варшавы, потым падрабязна распытаў, хто я такі, потым мы пагаварылі пра жыццё і нават знайшлі ў Скідалі агульных знаёмых.

— А чаго ён на вас злаваў, той паляк? — спытаў Болесь.

— Злаваў, што я навучыў вас, што гаварыць, і яшчэ настрашыў.

— Сынок, — хмыкнуў Болесь, — я такі стары, што даўно нікога не баюся, усе страхі сышлі...

— А такіх я штабелямі бачыў, — дадаў ён, падумаўшы. Каго ён бачыў такіх: ці мяне, ці Стася, ці нас абодвух? — я палічыў за лепшае не перапытваць...

Стася ўсё не было. Шафёр мацюгнуўся лёгкім польскім матам і пайшоў на пошукі. Вярнуўся ён хутка.

— Слухай, вечорэм мушэ быць на граніцэ. Забеж го стонд.

Цяпер я вылез з «паланэза» і пайшоў да Нюры. Там працягваўся ўчарашні Стасеў банкет. Нюра і Стась стаялі — Стась нешта рваўся сказаць, а Нюра супакойвала яго, гладзячы па рукаве. Данута і суседка, якая забегла следам за гасцямі паслухаць, што на свеце робіцца, сядзелі за сталом. На стале стаяла пачатая пляшка «Русской», было ружовае сала, чорны хлеб, цыбуля, бляшанка кілек, крыху паляндвіцы, грыбы, гуркі, капуста. Стась быў вельмі і вельмі задумёны.

— Добра! — матлянуў ён галавой, як конь. — Але калі пані кажа, што тая Ажэшка была праваслаўная, то як яна была полька і каталічка?

— Паночку, паночку, — загладзіла яго Нюра. — То было так, паночку. То яна была наша, тутэйшая. Але ж то ў дзеўках! А як пайшла замуж за паляка — то стала полька. А як стала полька — то стала каталічка.

У мяне адвісла пашчэнка. Стась пакачваўся на нагах узад-уперад і пра нешта думаў. Хіба ў той Маскве яго не так пра нешта навучылі — маскалі, што з іх возьмеш!

— Паночку, паночку, — свабоднай рукой Нюра гладзіла ўжо мой рукаў. — Паночку, сядзьце, выпіце, закусіце чым...

Нейкія сантыменты папаўзлі пад горла, слёзы на вачах панакручваліся. Плюнуў я на час, на мяжу, на пошукі Польшчы не па тых вёсках — сеў, наліў, выпіў і закусіў. Сала было — абалдзець...

Стась паціху здаваўся. У хаце было цёпла, галаву распіралі парцыяльныя ціскі, а дурныя хлопы не памяталі, што плятуць! Ляцела к чорту сенсацыя, Варшава, Еўропа, семнаццаць мільёнаў злотых... Хоць і абяцаных на дурноту дый не існуючых у прыродзе ўвогуле — але ўсё роўна дрэнна. Ну, таму што дрэн-на...

А Нюра агітавала, пляшка пусцела, сала знікала, суседка балдзела — будзе пра што бабам расказаць! З Нюрай мы, дарэчы, таксама разабраліся наконт майго занятку, Скідаля і агульных знаёмых.

— Добра! — матлянуў Стась галавой з апошнім высілкам. — А дзе цяпер вашыя паны?!

— А добрыя, паночку, паны былі, — застракатала Нюра, — і пазычыць пазычалі, і гаварылі па-людску...

— Не! — матлянуў галавой Стась. — Дзе яны цяпер?

— Хто, Мазалеўскія?! — улезла суседка. — А дзе ім быць? Адзін начальнікам, другі начальнікам....

— То што, цяпер лепшыя начальнікі — ці тады?! — раптам з нейкім апошнім шляхецкім гонарам і высока задраўшы галаву спытаў Стась.

— А нас, паночку, усе любілі, — нечакана неяк паважна сказала Нюра, — і каралі, і цары, і начальнікі. А цяпер маем сваю Рэспубліку Беларусь — вот!

У Стася на лоб пачалі вылазіць вочы — гэта быў умоўны знак, што час у дарогу.

Перапрабачыліся, перацалаваліся, зарулявалі паціху Стася, засунулі яго ў «паланэз», завезлі да хаты Болеся. І тут Стасю захацелася ... на могілкі! А як жа ж! А раптам гэта прапаганда?! А якія там крыжы?!

— Гдзе едземы? — уздыхнуў шафёр.

«Вось гэты — паляк! — падумаў я. — Па гэтым відаць, што паляк. Наш бы даўно выкінуў такіх фраераў з машыны і паехаў па сваіх хатніх справах...»

На могілках крыжы былі праваслаўныя, некалькі каталіцкіх... Колькі — Стась не лічыў, бо не мог, а я неяк саромеўся, бо навошта людзей турбаваць. Ад фамільнага шляхецкага склепа засталася страшная цагляная надбудова з бруднай ямай пад ёй. Сметнік, малiннік, пуста і гола... Правінцыя.

## III.

— А мне не спадабалася, што сказала ўчора Сухоцка, — ужо па дарозе назад раптам сказаў лёгка праветраны Стась.

— А мне спадабалася, — сказаў я. — Мне ўвогуле падабаюцца нармалёвыя палякі: Ханна Сухоцка, Юзэф Мацкевіч, Міхал Ягела...

— А мне не падабаешся ты! — гаркнуў Стась.

— Гэта добра, — кіўнуў я. — Ты больш акно адчыні, хай добра прадзьме.

Сварка выбухнула, калі праязджалі аэрапорт. Стэнаграмы няма — ды хто б яе надрукаваў без паправак?!

— Як то?! У польскай вёсцы няма Ажэшкі, а ў нейкай там такой-сякой ёсць?!

— А ты Польшчу шукаў? То шукаць Польшчу трэба на левым беразе, ці пад Лідай, ці па лясных вёсках.

— А чаму не там, дзе Ажэшка?!

— А чаму так павінна быць?

— А таму, што мне так т р э б а, х... ты едэн! Параспускаліся тут без дагляду...

У месцы Пазнаньскі раптам зноў пачаў мірыцца і нават спрабаваў узяць інтэрв'ю. Дыктафон то рабіў, то не — а размова йшла ў такіх жа выразах з абодвух бакоў. А часам і мацнейшых. Бедны Стась! Як ён намучыўся з дыктафоннай стужкай у сваім Беластоку — калі рэзаў і ляпіў, ляпіў і рэзаў, каб выйшла так, як яму трэба і што яму сніцца. Усё ж такі гады маскоўскага выхавання проста так не прайшлі...

А мне гэтая паездка, апроч знаёмства з мілымі людзьмі, Нюрай і Болесем, пра якіх яшчэ Караткевіч пісаў, што дадаць да іх талковае начальства, дык жылі б, як у Хрыста за пазухай, — мне гэтая паездка таксама прынесла карысць: я зразумеў на практыцы, што такое палітычная правакацыя.

Гэта калі прыедзе такі панок гульнуць па ніжэйшых цэнах, набярэцца зранку, пасварыцца з чалавекам, пачне піхаць жывое жыццё ў загадзя распрацаваную «канцэпцыю» і ў выніку ні халеры не зробіць — а дома трэба ж пісаць справаздачу! Тады ён кажа: а я гэтага хама спецыяльна справакаваў, каб гэтая правакацыя выйшла ў нашых палітычных інтарэсах!

Прабач, Пане Божа, але Ты занадта спяшаўся, калі зрабіў наш свет за сем дзён — не ўсё ў Цябе атрымалася.

*1992, лістапад — 1993, студзень*

# Пераклады

***Роўна ў поўнач 31 снежня 1992 года пражскія і браціслаўскія гадзіннікі закончылі свой сумесны ход. Зараз яны адлічваюць новы, самаладны час гісторыі дзвюх новых дзяржаў, зародак якіх утварыўся ў тым жа, што і для БНР, 1918 годзе пад назовам Чэхаславакія. Потым былі імёны Чэха-Славакія, ЧССР, ЧСФР.***

***То што ж нам рабіць, беларусам, добрым сябрам чэхаў і славакаў? Паспачуваць з журботаю, ці радасна іх павіншаваць? Або, згадаўшы з часоў Скарыны нашу еднасць, нашу грунвальдскую моц, паціснуць нашым братам рукі і пажадаць як мага лягчэй перажыць землятрус і патоп ад пагібелі камуністычнай атлантыды? І паабяцаць, што мы і надалей будзем перакладаць не з чэхаславацкай мовы, а з чэшскай і славацкай, са славацкай і чэшскай!***

***До відзенья, Браціслава!***
***На схлэданоу, Прага!***

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**былы «воін-інтэрнацыяналіст» у Цэнтральнай групе войск, старшыня рады сябрыны «Беларусь — Чэхія і Славакія»**

Францішак ГАЛАС

## ДОЖДЖ

**Такая вада**
**змучаная вада вада-смутак**
**як тая вада**
**у якой Пілат паласкаў рукі**

**Вось якая вада наўкруг**

**А чаго б ты хацеў**
**калі аж да сэрца амрочаны**
**калі такая вада-звада**
**А я б вось хацеў**
**пяшчотны краёчак з-пад падалка**
**жанчыны**
**якая прыходу майму яшчэ рада**

Міраслаў ГОЛУБ

## КАПРАЛ, ЯКІ ПРАТКНУЎ АРХІМЕДА

**Смелым кідком**
**збіў круг, датычную**
**і кропку перасячэння**
**ў бясконцасці.**

**Пад страхам**
**чацвертавання**
**забараніў лічбы**
**ад трох і вышэй.**

**Потым у Сіракузах**
**узначаліў школу філосафаў;**
**другое тысячагоддзе**
**сядзіць там і дзідаю піша:**

**раз два**
**раз два**

**раз два**

Іван ДЫВІШ

## ЁСЦЬ ТАМ ЯНА —

**недзе ў пасцелі, ахутаная**
**па загарэлы локаць,**
**пасля пакупак, мыцця, пустых**
**спрэчак са мною**
**пра каханне чытае кніжку —**

**Вось уварвуся да яе і полаг,**
**як шабляю шапку, скашу перад ёю,**
**каб толькі глянула і блаславеннем**
**суцішыла гэтую ўзрушанасць —**

**Кнігу б закрыла, прыціхлага выняла**
**дэмана,**
**ў пляшку ўсадзіла, пусціла марскімі хвалямі**
**і, абаперішыся на локаць,**
**чытала б далей —**
**Ісціна ж тая, што праўды за ёю больш,**
**чым за мной —**

Вілэм ЗАВАДА

## ДАРОГА НА ЛОБНАЕ МЕСЦА

**Гром ударыць,**
**праломіць нябёсы аж да зямлі.**
**Птах трапятліва пад кронамі цiўкне;**
**чырыканнем хоча запоўніць праломіну.**

**Нетры душы тваёй анямелі,**
**доля-зямля.**
**Курчышся ў цяжкім роздуме,**
**слёзаў не выцадзіш.**

**Гора — і скалы распаліся б,**
**каб сосны не ашчаперылі іх.**
**Гора — і гліна разветрылася б,**
**каб коні не здратавалі яе.**

**Сэрца планеты вырвацца хоча,**
**выплеснуцца, бы з памыйнай лаханкі.**
**Жывое? — Лепш ужо мёртвым быць.**
**Мёртвае? — Глыбей у чысцец запльць.**

**Нетры душы тваёй анямелі,**
**доля-зямля.**
**Курчышся ў горкім роздуме,**
**кленічы не выдыхаючы.**
**Дзе ж справядлівасць?**

**Гэта за вас**
**стала зямля спадкаемцай ганьбы —**
**і, падсцёбваючы сябе, сунецца**
**вуліцамі, разлогамі на лобнае месца —**
**за вас, за вас, за вас.**

Ян НОГА

## ПРАГА

**Прага — сага продкаў у мядзведжым**
**кажусе лясоў;**
**Прага — горад з твістамі**
**перакрыжаванняў;**
**Прага за сталамі, дзе смакуецца піва,**
**Прага за столікамі,**
**да якіх прытуліліся вінаградныя схілы...**

**Прага, ты пад крылом часу,**
**якому няма ні канца, ні пачатку, —**
**Раздаю цябе поўнымі жменямі.**

Яраслаў СЭЙФЕРТ

## ПЕСНЯ

**Ростань зноў каснікамі**
**зажурыць наша поле.**
**Штораз нешта знікае**
**у красе наваколля.**

**Голуб крылы рассцеле:**
**каб не зведалі стому;**
**без надзеі, з надзеяй —**
**мчыцца толькі дадому.**

**Слёзы шкодзяць мужчыне.**
**Палюбі як ніколі!**
**Штораз нешта ў зачыне**
**у красе наваколля.**

Францішэк КСАВЭР ШАЛЬДА

## З РУЖЫ АГНІСТАЙ, СОНЕЧНАЙ...

**З ружы агністай, сонечнай лёг**
**на мяне пялёстак...**
**Дзе я быў у трызненні? Пад туяй?**
**Пад кіпарысам?**
**А мо як стаяў на могілках**
**прад самаю**
**брамай?**
**Спішуся. Хай не выведае пра гэта ніхто**
**аніколі...**

**Шал напаў на мяне. Ведаю ўсё,**
**што не бачаць**
**іншыя і не чуюць. О як рэчы**
**наперад мкнуцца**
**і кіпяць унутры! Хай жыццё**
**вымяраю сваё**
**на пядзі, —**
**здрадаю будзе — супынак!**
**Душа, я так не хачу**
**караскацца.**

Бланка ШВАБАВА

## КАНІКУЛЫ

**Высокае святло**
**і спеў — у вышыні...**
**А тут — начы святло,**
**тут крэкчуць карані.**

**Як соладка на тым сунічным полі,**
**дзе выспяваюць ягады на волі.**

**І заўтра на зары**
**вы сонца не праспіце,**
**дайдзіце да гары,**
**за далягляд зірніце.**
**І пакарыце вы вяршыню тую,**
**што вызначыць вам долю маладую.**

# ПРАФЕСІЯ — ТЭАТРАЗНАВЕЦ

***Сёлета Беларуская акадэмія мастацтваў упершыню праводзіць набор студэнтаў на дзённае аддзяленне па спецыяльнасці тэатразнаўства. Сваімі думкамі і планамі з гэтай нагоды на старонках «ЛіМа» дзеляцца рэктар акадэміі Васіль Шаранговіч, прарэктар па навучальнай рабоце Анатоль Каляда і старшы выкладчык, кандыдат мастацтвазнаўства Таццяна Ратабыльская.***

**В. ШАРАНГОВІЧ.** Беларуская акадэмія мастацтваў /раней — тэатральна-мастацкі інстытут/ набірае тэатразнаўцаў на завочнае аддзяленне з 1963 года /вядома, не штогод/. Здавалася б, мы выпусцілі шмат дыпламаваных тэатральных крытыкаў, але амаль ніхто з іх не ўкараніўся ў культурным жыцці рэспублікі. Гэта тычыцца ў аднолькавай ступені і мастацтвазнаўцаў. У рэспубліцы амаль няма спецыялістаў з базавай адукацыяй па гісторыі і тэорыі мастацтва.

Я ў прынцыпе супраць завочнай адукацыі, і асабліва — па тэарэтычных спецыяльнасцях, дзе, як сведчыць наша практыка, завочная форма навучання не дае аніякага плёну. Вось чаму ў нас мізэрна мала арыгінальных матэрыялаў па сучаснаму мастацтву, яго тэорыі і гісторыі ў перыядычным друку, а рэдактары выданняў не перастаюць скардзіцца на хранічную нястачу аўтараў. Калі прыгледзецца да тэатральнай і мастацкай крытыкі, сапраўды, стане відавочна, што цікавых крытыкаў можна пералічыць па пальцах. На тэлебачанні таксама часта мы сустракаемся з непрафесійным падыходам да праблем мастацтва. У крытыцы — стан крытычны, такі вось каламбур.

Такім чынам, даўно наспеў час заняцца базавай адукацыяй у гэтай галіне гуманітарнай навукі.

**А. КАЛЯДА.** У цывілізаваных краінах мастацкаму густу крытыка, яго меркаванню давяраюць. Ён з'яўляецца свайго роду экспертам — на спектакль, які ўдастоіўся станоўчай рэцэнзіі вядомага крытыка, ідзе глядач. І наадварот. Я не думаю, што ў нас калі-небудзь так будзе. На працягу многіх дзесяцігоддзяў з тэатральнай крытыкай у нас былі праблемы. Цікавасць да тэатра ў гледачоў вызначалася іншымі ўмовамі: узроўнем культуры людзей, іх духоўнай патрэбай.

Але імкнуцца, так бы мовіць, да сусветных стандартаў — трэба. А для гэтага неабходна рыхтаваць спецыялістаў, прафесіяналаў. Значыць, патрэбна стацыянарная адукацыя.

**Т. РАТАБЫЛЬСКАЯ.** Большая частка прэм'ерных спектакляў, акцёрскіх і рэжысёрскіх дэбютаў у тэатрах рэспублікі застаецца па-за ўвагай друку. Ад адсутнасці ці няразвітасці тэатральнай крытыкі найперш хварэе мастацтва. Бо павярхоўны самааналіз таго ці іншага віду мастацтва дэфармуе яго перспектыўныя арыенціры ў творчасці. Банальна-бляклы след тэатра ў памяці нашчадкаў — гэта ж, калі ўдумацца, змарнаванае наша з вамі жыццё, нашы думкі і памкненні.

**В. ШАРАНГОВІЧ.** Размовы аб адкрыцці дзённага тэатразнаўчага аддзялення не адно дзесяцігоддзе адбываліся на шматлікіх сходах, пасяджэннях, але далей слоў і пажаданняў справа не ішла. У 1995 годзе Беларуская акадэмія мастацтваў будзе адзначаць сваё пяцідзесяцігоддзе. Юбілей тычыцца менавіта тэатральнага факультэта, таму што іншыя — маладзейшыя. Але, на жаль, за гэтыя дзесяцігоддзі мы не здолелі закласці тэарэтычнага падмурка беларускага мастацтва. Гэта факт. Раней органы кіравання адукацыяй не разумелі неабходнасці ў такіх кадрах. Сёння мы можам самастойна вырашаць многія пытанні. Тое, што мы летась набралі на стацыянар мастацтвазнаўцаў, а цяпер збіраемся прыняць тэатразнаўцаў, сведчыць, што з нашага боку робяцца, хоць са спазненнем, але першыя крокі для паляпшэння стану крытыкі і навукі аб мастацтве. Да выхавання моладзі мы мяркуем запрасіць лепшых спецыялістаў, якія б змаглі падрыхтаваць сапраўды прафесійных крытыкаў і тэатразнаўцаў.

**Т. РАТАБЫЛЬСКАЯ.** На мой погляд, тое, што сёння адбываецца з тэатразнаўствам, у значнай ступені залежыць ад адсутнасці сапраўднай навуковай метадалогіі, якая б суадносілася з рэчаіснасцю, адпавядала б сучаснаму ўзроўню мыслення. У беларускім тэатразнаўстве ёсць цікавыя і сур'ёзныя працы. Згадаю, напрыклад, кнігі Г. Барышава і В. Дадзіёмавай пра тэатр XVIII стагоддзя, бібліяграфічныя даведнікі Н. Ватацы і С. Кавязінай, кнігі пра сучасны тэатр Б. Бур'яна... Але ж гэта — выключэнні. Агульны метадалагічны ўзровень беларускага тэатразнаўства адстае ў нас у лепшым выпадку гадоў на 30—40 ад таго, які існуе ў Маскве ці Санкт-Пецярбурзе /я ўжо не кажу пра Заходнюю Еўропу/. Мы не маем грунтоўных прац па тэарэтычнаму асэнсаванню тэатральнай гісторыі і сучаснасці. Сёння ж рабіць выгляд, што не існуе Тартускай школы семістыкі /«Труды по знаковым системам» выходзяць не адзін год/, прац Р. Барта, Ю. Лотмана, М. Бахціна, С. Аверынцава, А. Гвоздзева... Дарэчы, і традыцыйныя метады даследавання тэатра — не зусім пройдзены шлях для нашага тэатразнаўства. Аб гэтым сведчаць аднолькавасць сучасных матэрыялаў пра тэатр, недаследаваныя архівы, кружэнне даследчыкаў па адных і тых жа крыніцах. Таму для маладых тэатразнаўцаў, акрамя тэатральнай крытыкі, галоўнай дысцыплінай стане навукова-метадалагічны семінар і крыніцазнаўства беларускага тэатра, г. зн. студэнты будуць рыхтавацца не толькі для журналісцкай працы, але і для гістарычных і тэарэтычных даследаванняў. Па сутнасці, яны павінны атрымаць грунтоўную прафесійную падрыхтоўку, якой раней папросту былі пазбаўлены /навукова-метадалагічныя дысцыпліны раней не выкладаліся, таму рыхтаваліся ў лепшым выпадку тэатральныя крытыкі, а не тэатразнаўцы/.

**В. ШАРАНГОВІЧ.** Светапогляд — галоўнае ў падрыхтоўцы спецыялістаў. Трэба выхаваць даследчыкаў, якія здольны былі б вылучыць і новыя тэарэтычныя канцэпцыі. Сальвадор Далі, дарэчы, спачатку з'явіўся на тэарэтычнай глебе з ідэяй сюррэалізму, а потым геніяльна ўвасабляў свае тэарэтычныя адкрыцці ў творчасці.

Новыя пачынанні без складанасцей ніколі не абыходзяцца. Яны значныя, улічваючы агульныя цяжкасці ў галіне адукацыі. Мы не маем магчымасці штогод праводзіць стацыянарны набор тэатразнаўцаў. Паступова вызначацца цыклічнасць і раўнавага сярод тэатразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў. Будзем уносіць пэўныя карэктывы, якія падкажа само жыццё. Дарэчы, адкрыўшы дзённае аддзяленне, мы не збіраемся зачыняць завочнае, але існаваць яно будзе з іншымі падыходамі.

**А. КАЛЯДА.** Адкрыццё стацыянара, безумоўна, патрабуе ад акадэміі значных намаганняў. На тэатральным факультэце ўсяго толькі 9 аўдыторый, у якіх займаюцца адначасова будучыя акцёры і рэжысёры. Аднак Вучоная Рада акадэміі, нягледзячы на ўсе цяжкасці, прыняла рашэнне набраць у гэтым годзе менавіта тэатразнаўцаў /мабыць, за кошт акцёрскага набору/ і групу тэлеаператараў. Мяркуецца ў наступным годзе набраць яшчэ адзін вельмі неабходны курс — па спецыяльнасці мастак тэатра.

Нам і далей давядзецца адкрываць у сябе новыя спецыяльнасці і спецыялізацыі, па якіх раней у рэспубліцы не было падрыхтоўкі. Бо гэта патрэбна для нашай культуры. І цяпер наўрад ці Масква і Санкт-Пецярбург будуць суверэннай Беларусі рыхтаваць кадры.

**Т. РАТАБЫЛЬСКАЯ.** Тэатразнаўства — цяжкая прафесія, якая патрабуе ведаў у розных галінах мастацтва, глыбокага ведання літаратуры, выяўленчага мастацтва, побыту, тэорыі культуры, гісторыі філасофіі і г. д. Таму шырокі спектр гуманітарных дысцыплін — у цэнтры нашай увагі пры складанні планаў адукацыйнага працэсу.

Яшчэ адзін напрамак — свабодная і шырокая спецыялізацыя студэнтаў на старэйшых курсах з дапамогай шматлікіх спецкурсаў. Асаблівасцю новай праграмы стане набліжэнне будучых крытыкаў і навукоўцаў да сцэнічнай практыкі. Студэнты сур'ёзна пазнаёмяцца з акцёрскім майстэрствам, што называецца, «на пляцоўцы», прадугледжаны штогадовыя практыкі ў прафесійных тэатрах, часопісах, на тэлебачанні і радыё. У нас ёсць дамоўленасць з часопісам «Мастацтва», каб друкаваць найбольш арыгінальныя студэнцкія працы ў раздзеле «Дэбют» /як мы зрабілі гэта са студэнтамі-завочнікамі ў леташнім дзевятым нумары часопіса/.

**В. ШАРАНГОВІЧ.** Мы робім захады, каб пазнаёміць наш дыпламатычны корпус з акадэміяй, маем на ўвазе пашырыць сувязі з іншымі дзяржавамі. Мы хочам калі-небудзь запрасіць да нас замежных спецыялістаў ці зрабіць азнаямленчыя абмены студэнцкімі курсамі з вышэйшымі прафесійнымі школамі іншых дзяржаў. Сёння самастойна вырашыць такія праблемы акадэмія не можа /няма грошай/. Усё навокал камерцыялізуецца, і для студэнтаў складана нават паглядзець спектакль у іншым беларускім горадзе, папрацаваць у архіве, музеі, паўдзельнічаць у конкурсе. І цяжка сказаць, як будзе далей. Можа, яшчэ складаней.

**А. КАЛЯДА.** Тэатральная крытыка, нагул, адна з самых бедных прафесій. Пражыць з яе сёння немагчыма. І таму ўвесь цэх тэатральных крытыкаў займаецца ёю, як кажуць, у вольны ад асноўнай працы час /хтосьці працуе ў музеі, інстытуце, часопісе і г. д./. Таму мы павінны шчыра сказаць студэнтам, што будучае ўладкаванне стане ўласнай праблемай кожнага выпускніка. Тэатразнаўцы — «вольныя мастакі»...

**Т. РАТАБЫЛЬСКАЯ.** Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, думаю, выкажу агульнае пажаданне нашых выкладчыкаў — выхаваць эстэтычна раскаваных людзей, сапраўдных прафесіяналаў, не абмежаваных якім-небудзь адным сцэнічным напрамкам, людзей, якія б з павагай ставіліся да майстроў сцэны, і проста любілі тэатр.

Сёлета плануецца невялікі набор — да 10 чалавек. Экзамен па спецыяльнасці будзе складацца з дзвюх частак: рэцэнзія на спектакль апошніх сезонаў /у асобных выпадках — рэцэнзія на п'есу/ і калёквіум, дзе будзе правярацца ўменне абітурыента «бачыць» і адчуваць тэатр, прааналізаваць свае ўражанні ад спектакля. Кансультацыі можна атрымаць на кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў акадэміі. Зразумела, тыя студэнты, якіх мы збіраемся прыняць і выпеставаць, не запоўняць тыя прагалы ў навуцы пра тэатр, якія існуюць сёння. Але ж варта некалі пачынаць...

## Наш каляндар

**Лідзіі ГАЛУШКІНАЙ** — 70. Народная артыстка рэспублікі, яна з пачатку 50-х была салісткай беларускай оперы, выконвала вядучыя партыі мецца-сапранавага рэпертуару. Вялікі драматычны тэмперамент спявачкі выявіўся ў творах беларускіх кампазітараў /Надзежда Дурава ў аднайменнай оперы А. Багатырова, Алеся ў «Дзяўчыне з Палесся» Я. Цікоцкага, Веранікa ў «Зорцы Венеры» Ю. Семянякі, Удава кніжнага гандляра ў «Джардана Бруна» С. Картэса.../. Стварыла запамінальныя вобразы Кармэн, Любашы, Амнерыс і інш. Цяпер выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі.

85 гадоў старэйшаму руплііўцу на ніве самадзейнага мастацтва **Паўлу ШЫДЛОЎСКАМУ**. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, ён вядомы як аўтар шматлікіх песень, частка якіх выдавалася асобным зборнікам. Самадзейны кампазітар быў і кіраўніком народнага харавога калектыву на роднай Уздзеншчыне.

**Тамары МІЯНСАРАВАЙ** было б 80 /памерла ў 1990 г./. Гэтае імя шмат гадоў чулі ў эфіры, і яшчэ будуць чуць, нашы радыёслухачы. Вядомая піяністка, яна плённа супрацоўнічала з многімі беларускімі выканаўцамі як канцэртмайстар, ствараючы неацэнны фонд музычных запісаў рэспубліканскага радыё.

**Аляксандру АВЕЧКІНУ** споўнілася б 80 /памёр у 1980 годзе/. Друкавацца пачаў у 1951 годзе. Пісаў на рускай мове. Асобнымі кнігамі выйшлі аповесці для дзяцей «Соломка» /1951/, «Ошибка «Дикого зубра» /Красноярск, 1960/, «У Дивных гор» /1965/. У галіне «дарослай» прозы выдаў зборнікі «Подвиг сигналиста» /1958/, «Рассказы» /Красноярск, 1961/, «Особое задание» /1979/...

**Юрыю РУДЗЬКО** было б 80. На жаль, пайшоў ён з жыцця яшчэ ў 1948 годзе. Друкавацца ў рэспубліканскай перыёдыцы пачаў яшчэ ў 1932 годзе, калі вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута. Пісаў нарысы, артыкулы, апавяданні. У 1935 годзе разам з Іл. Дуброўскім выдаў зборнік нарысаў «Размова па шчырасці». Выбраныя творы /апавяданні, аповесці «Сакрэт маладосці», «Над Одэрам», п'есы «Слава дружбе» і «Дарагі госць»/ увайшлі ў аднатомнік «Слава дружбе» /1950/. У сааўтарстве з У. Стэльмахам напісаў п'есу «Канец маскараду» /1938/.

## Музыка

***Саюз кампазітараў Беларусі дэлегаваў у Кіеў у якасці ўдзельніка Міжнароднага фестывалю кампазітараў маладога і ўжо вядомага творцу Аляксандра ЛІТВІНОЎСКАГА. Нядаўна ён вярнуўся ў Мінск...***

**— Калі ласка, Аляксандр, некалькі слоў пра гэты музычны форум.**

— Міжнародны фестываль у Кіеве зарыентаваны на музыку сучасную, авангардную, у якой выкарыстоўваюцца самыя свежыя сродкі выразнасці. Такім чынам ён як бы выяўляе ўзровень /мастацкі, прафесійны/ маладых кампазітараў сённяшняга дня, у ліку якіх былі прадстаўнікі не толькі былых рэспублік Савецкага Саюза, але і Францыі, Венгрыі, Польшчы, Югаславіі, Галандыі...

Гэта цудоўная магчымасць — паслухаць калег, якія жывуць за мяжой, і самому прадставіцца на такім форуме. Доўжыўся ён амаль тыдзень, вельмі цікавая і насычаная праграма складалася з двух штодзённых канцэртаў той музыкі, якую мы, кампазітары, шчыра кажучы, не надта часта слухаем адно ў аднаго: больш «варымся ва ўласным соку».

На падставе сваіх адчуванняў гэтай няпростай сучаснай музыкі можна было рабіць высновы наконт нейкіх тэхналагічных асаблівасцей таго ці іншага твора. І засяродзіцца цалкам на музыцы дапамагала вельмі добрая арганізацыя: цудоўны атэль для іншаземцаў, выдатнае харчаванне, удала спланаваны вольны час — экскурсіі па самых адметных мясцінах Кіева... Такім чынам прафесійныя стасункі ўспрымаліся як свята музыкі — музыкі сур'ёзнай, музыкі авангарднай.

**— Наладзіць такое свята намаганнямі творчага саюза — у наш час гэта неверагодна!**

ЯК ХУТКА БЯЖЫЦЬ ЧАС. Задума гэтага артыкула нарадзілася больш за 10 гадоў таму, пасля X Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. І. Глінкі, які адбыўся ў Мінску ў 1981 годзе. Хацелася абгаварыць праблемы арганізацыі конкурсаў уласна для камерных спевакоў... І хоць многае змянілася за 10 гадоў у нашым жыцці, мастацтва са сваімі праблемамі ды каштоўнасцямі існуе, нягледзячы на шматлікія цяжкасці ды перашкоды.

Дарэчы, год назад я пісаў у «ЛіМе» пра ўжо XIV глінкаўскі конкурс вакалістаў — апошні ўсесаюзны. Адбыўся ён у Алма-Аце. І адносна асобнага конкурсу камерных спевакоў усё тады заставалася як раней — яго так і не было. Тым больш парадавала вестка з Міжнароднага саюза музычных дзеячаў аб правядзенні І Міжнароднага конкурсу камерных спевакоў, які паэтычна назвалі «Бурштынавы салавей». Так, гэта ўжо было з'явай: І Міжнародны конкурс менавіта камерных спевакоў, пра які марылі многія пакаленні прафесійных выканаўцаў гэтага жанру.

Адбыўся «Бурштынавы салавей» у верасні 92-га ў Калінінградзе. Найскладаная праграма ўключала выкананне 2-х вакальных цыклаў /замежнага і рускага кампазітараў/, абавязковы раманс А. Даргамыжскага /асобны для кожнага тыпу голасу/, рамансы амерыканскага, французскага і сучаснага рускага ці беларускага кампазітара /усё на мовах арыгінала/ і іншыя творы. На жаль, ніхто з вядомых беларускіх артыстаў-прафесіяналаў не захацеў узяць удзел у конкурсе. А студэнты Беларускай акадэміі музыкі Э. Рыжановіч ды А. Краснадубскі далей другога тура не прайшлі, хоць і выступілі ўдала, — не хапіла вопыту, ды і майстэрства. Гэта яшчэ раз пацвярджае выснову пра складанасць жанру камернага выканальніцтва.

Вось я і ўспомніў задуму артыкула 10-гадовай даўнасці, каб расказаць пра Міхаіла Жылюка — пераможцу спаборніцтва камерных спевакоў у рам-

# АЎТАР «ВІРА» Ў ФЕСТЫВАЛЬНЫМ ВІРЫ



— Але ж у Кіеве фестывалем займаўся не адно толькі Саюз кампазітараў. Сярод заснавальнікаў — Міністэрства культуры Украіны, дырэкцыя Міжнароднага фестывалю «Кіеў мюзік фэст», Цэнтр музычнай інфармацыі. Словам, была магутная спонсарская падтрымка. Выпраўляючыся ў Кіеў, я меркаваў, што там будзе цікава, але што **так** будзе цікава і хораша — нават уявіць не мог. Структура Саюза кампазітараў у нашых суседзяў, аказваецца, функцыяніруе няблага.

**— Зразумела, уражанні ад некалькіх канцэртаў не дазваляюць рабіць бясспрэчных абагульненняў. І ўсё ж, Аляксандр: ці гарманіравала б з гэтым еўрапейскім кантэкстам беларуская маладая музыка?**

— Арыентуючыся на тыя канцэрты, што ў Мінску арганізуе Асацыяцыя сучаснай музыкі пры нашым Саюзе кампазітараў, можна, бадай, сказаць: гэта знаходзіцца на пэўным узроўні і гэта не сорамна паказаць па-за межамі Беларусі. Хаця вы маеце рацыю: за няпоўны тыдзень зрабіць канчатковыя высновы цяжка. Тым больш, што кожны ўдзельнік быў прадстаўлены ў канцэртах толькі адным творам. Дарэчы, партытуры, загадзя дасланыя ў Кіеў аўтарамі, агучваліся ўкраінскімі музыкантамі, і, як мне здаецца, гэта вельмі прыстойна зроблена было, вельмі прафесійна, без аніякага элементу павярхоўнага стаўлення. І гучала менавіта тое, што было абвешчана ў праграме.

**— Норма, ад якой нас, на беларускіх форумах, калі праграма можа змяніцца за паўгадзіны да канцэрта, спакваля адвучылі... Вы прадставілі ў Кіеве ўжо знаёмы нашай публіцы /і вядомы ўважлівым чытачам «ЛіМа» свой «Вір» для чатырох валторнаў. Чаму такі выбар?**

— «Вір» стылістычна можна аднесці да музыкі авангарднай, і ў гэтым творы, спадзяюся, мне штосьці ўдалося. І сам склад — чатыры валторны — мае поспех у канцэртных праграмах. Дый мне самому, калі многа музыкі пішацца для струнных, а пра медзь забываюцца, — мне падабаецца працаваць з самім гукам той жа валторны, у яго ўслухоўвацца, камбінаваць розныя спалучэнні, стварыць нейкія свае калажы з гукаў гэтага інструмента... Захацелася паказаць «Вір» і замежным калегам, з якімі мы абменьваліся вопытам, ведамі.

Вельмі, дарэчы, важна, што між намі не было нейкага спаборніцтва: быў дух цікавасці адно да аднаго, зычлівасці. Калі сустракаюцца людзі адной прафесіі, ім ёсць пра што пагаварыць, нават калі яны з розных краін: мо гэта адзінае /маю на ўвазе творчасць і прафесію/, да чаго яны ставяцца сур'ёзна, мабыць, і фанатычна.

Конкурс, праўда, праходзіў падчас гэтага фестывалю, але сярод кампазітараў — студэнтаў украінскіх кансерваторый. Адметна, што сюды быў запрошаны знаны прафесар з Заходняга Берліна, маэстра Цымерман, кампазітар і педагог. Для нас ён праводзіў майстар-клас, мы слухалі яго фартэпіянны канцэрт, потым паказвалі маэстра свае партытуры, абмяркоўвалі іх.

**— Аляксандр, вы сказалі, што калі сустракаюцца людзі адной прафесіі, ім ёсць пра што пагаварыць, хоць яны і з розных краін. Чаму ж, як вы думаеце, кампазітары адной краіны, нашай, гэтак шчыра і зычліва не кантактуюць між сабою, калі ладзяцца музычныя форумы ў нас? Можа, яны не настолькі адно для аднаго цікавыя, ведаюць загадзя, хто на што здатны, а таму і не ходзяць на канцэрты, калі выконваюцца творы калег? Можа, і ў Еўропе такая завядзёнка сярод кампазітараў — не слухаць «чужую» музыку?**

— Пазалетась, калі ў Мінску праходзіў І Міжнародны фестываль сучаснай камернай музыкі, прыязджалі замежныя кампазітары-авангардысты, дык і жыццё наша неяк ажыўлялася, віравала. Мы не абміналі ніводнага канцэрта, сустракаліся з калегамі... Хоць вы, канечне, маеце рацыю: гэта былі **замежныя** калегі. Але праўда і тое, што мы, кантактуючы штодня ў сваім музычным асяроддзі, выйшаўшы фактычна з адных, агульных акадэмічных сцен, ведаем творчыя магчымасці адно аднаго. Што датычыць наведання канцэртаў беларускай музыкі... Дык у залах бракуе не толькі кампазітараў, у залах бракуе **проста слухачоў** — мабыць, галоўнага, бо гэта ж для іх і пішацца наша музыка. Пустата ж — гэта заўсёды страшна, і не толькі ў зале падчас канцэрта, але і ў іншых вымярэннях і сэнсах.

На Кіеўскім форуме, дарэчы, **не было пустаты** — вось што важна. Я не спытаў у сваіх новых сяброў, якія дачыненні ў іх на радзіме з калегамі, з публікай. Я распытваў пра становішча авангарднай музыкі. І высветліў, што ў Еўропе сёння свае складанасці, свае праблемы, не ўсё так вясёлкава, як падаецца ды ўяўляецца нам. У Еўропе, аказваецца, цяпер эканамічны крызіс, што адбіваецца і на мастацтве. Вось чаму замежныя кампазітары з задавальненнем едуць на фестывалі кшталту Кіеўскага: прагучаць лішні раз, ды на такім міжнародным форуме, — для іх гэта вельмі важна. І калі я пытаўся, ці змаглі б мае новыя сябры прыехаць у Мінск на якісь музычны фестываль, яны выказвалі самы гарачы энтузіязм.

**— А чаму б і не? «Беларуская Капэла», напрыклад, наладзіць увосень ужо трэці свой фестываль, які будзе цалкам прысвечаны новай музыцы. Запрашаюцца замежныя госці, рыхтуецца фестывальны рэпертуар, у тым ліку і ваш новы твор... Будзем чакаць свежых уражанняў. А пакуль я дзякую вам, Аляксандр, за інтэрв'ю.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# І ГОЛАС, І ПАЧУЦЦЁ, І АРТЫСТЫЗМ...

ках тагачаснага конкурсу вакалістаў імя М. І. Глінкі.

На тым конкурсе, дарэчы, сярод пераможцаў ад нашай рэспублікі было аж трое: салісты — В. Полазаў і М. Жылюк ды канцэртмайстар — Г. Каржанеўская.

Старшыня журы знакамітая І. Архіпава гаварыла тады: «Выконваючы раманс ці песню, у дзве старонкі якіх укладзена так многа пачуццяў, трэба асабліва клапаціцца пра самыя малыя нюансы, дэталі, павароты настрою». Гэта немагчыма без пэўнага вопыту і добрай школы. Жылюк меў, здаецца, і тое, і другое. З 1967 г. вучыўся на падрыхтоўчым аддзяленні пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У 1969 г. паступіў у клас народнага артыста БССР М. Зюванава. З 1971 г. прадоўжыў заняткі ў Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі /клас прафесара Г. Ціца/. У 1976 г. быў прыняты салістам у ДАВТ Беларусі, дзе працуе і цяпер. Асістэнтура-стажыроўка ў класе прафесара Т. Ніжнікавай. Удзел у VI Міжрэспубліканскім конкурсе музыкантаў-выканаўцаў /1980 г., II прэмія/...

На тым мінскім конкурсе Міхаіл выразна выступіць не па оперна-канцэртным, а па камерным раздзеле. І яму давялося добра папрацаваць. Праграмы абодвух раздзелаў вельмі адрозніваюцца. У «оперніках», і гэта зразумела, упор зроблены на арыі — іх у кожным туры канкурсанты выконвалі па дзве, прычым для II тура вызначаны абавязковыя творы. У «камерніках» асноўная частка праграмы — рамансы, прычым у II і III турах яны выконвалі вакальныя цыклы. Але найбольш складанае ў іх праграме — выкананне рамансаў М. Глінкі. І вось тут у больш адказным становішчы былі «камернікі», таму што ў трох турах выконвалі сем рамансаў М. Глінкі, а «опернікі» — усяго два.

На ўсіх мінулых конкурсах менавіта выкананне глінкавых рамансаў выклікала ў спецыялістаў найбольш нараканняў. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо ў ягоных рамансах кожная нота, уж не кажучы пра кожную асобную фразу, набывае вялікую каштоўнасць. Да таго ж, слухач застаецца халодным да самага тэхнічна бездакорнага выканання, калі яно пазбаўлена паэтычнага агню. А як лёгка нарабіць грубых памылак, не зразумеўшы ідэю аўтара! Дастаткова, напрыклад, узяць тэмп удвая хутчэйшы ці ўдвая спакайнейшы, каб сказіць сэнс музычнага твора. Адна і тая ж нота ў выкананні можа атрымаць шмат адценняў, нават супрацьлеглых. А што можна казаць пра выкананне гукаў у іх сувязі, пра музычныя фразы, пра цэлыя групы фраз і, наогул, пра музычны твор цалкам? Таму, відаць, і лічыцца камернае выкананне складаным жанрам.

Усё гэта добра ведаў М. Жылюк па ранейшых конкурсах. Ведалі пра гэта і яго кіраўнік Т. Ніжнікава, і Г. Каржанеўская, якая выступала ў якасці канцэртмайстра на многіх конкурсах імя М. І. Глінкі. Таму з поўнай адказнасцю і вельмі старанна яны выбіралі і рыхтавалі праграму. На І туры выконвалі 5 твораў: ад класічнай арыі /В. Моцарт, арыя Дон Жуана з аднайменнай оперы/ да сучаснага рамансa /А. Бойка, «Тапалі»/. Выступілі роўна, але без таго бляску, як маглі: пэўна, праз хваляванне. Але конкурс ёсць конкурс — усе хвалююцца. Дарэчы, што такое конкурснае хваляванне, можа зразумець толькі той, хто сам быў удзельнікам.

На II туры ўжо больш спакойна і пераканаўча былі выкананы 4 рамансы /сярод іх тры — глінкаўскія/, беларуская народная песня і вакальны цыкл Д. Смольскага. Пасля аб'яўлення вынікаў II тура паверылася ў перамогу. І на III туры Міхаіл спяваў з уздымам, вельмі эмацыянальна і натхнёна. Тым больш, што сярод твораў, якія выконваў, былі два рамансы беларускіх кампазітараў /«Праходзяць дні» Р. Пукста і «Край мой беларускі» І. Лучанка/. Раманс І. Лучанка Міхаіл потым выконваў і на заключным канцэрце лаўрэатаў, і гучаў ён як гімн нашай Беларусі.

Вось што гаварыла, падводзячы вынікі гэтага спаборніцтва вакалістаў, член журы, вядомая камерная спявачка З. Далуханава: «Лічу, што ўзровень конкурсу стаў вышэйшым у першую чаргу ў сувязі з павышэннем узроставага цэнзу — раней у камерным, як і ў оперным раздзеле выступалі ўдзельнікі толькі да 30 гадоў. Напэўна, у такім узросце выканаўцы яшчэ не набываюць той глыбіні, якая патрэбна гэтаму жанру. Камернае выкананне — гэта не толькі малы ці вялікі голас. Гэта ўсё разам: і голас, і пачуццё, і артыстычнасць, і майстэрства. На нашым конкурсе мы чулі шмат прыгожых галасоў, але многім не хапала патрэбнай тонкасці».

Як адзначала журы, асабіста Міхаіл Жылюк выступіў вельмі «роўна» на ўсіх трох турах, што сведчыць пра яго «клас». Як гэта — «роўна» і што такое «клас»? Па-першае, за гэтым стаіць вялікая праца па вывучцы і «давядзенні» твораў. /Тут вялікае дзякуй канцэртмайстру Г. Каржанеўскай/. Голас жа ў Жылюка — лірычны барытон вельмі прыгожага тэмбру, і валодае ён ім па-майстэрску. Тут ужо дзякуй настаўнікам — М. Зюванаву, Г. Ціцу і Т. Ніжнікавай. І музычнасць, і эмацыянальнасць, і артыстычнасць, — усё гэта ёсць у спевака ў дастатковай меры. І ўсё пераліўчае ў спалучэнні з добрым густам, з веданнем стылю выконваемых твораў, памножанае на вялікую творчую аддачу і дае «клас» выканаўцы. Добра, у стылі і пранікнёна гучалі ўсе сем рамансаў Глінкі, што, як вядома, ці не самае важнае на гэтым конкурсе. І ўсё ж найярчэйшае ўражанне было ад выканання твораў беларускіх кампазітараў: цыкла Д. Смольскага «Матуў Гейнэ», рамансаў Р. Пукста ды І. Лучанка. Тут да майстэрства спевака дадавалася своеасаблівая, так бы мовіць, пранікнёнасць блізкасцю тэматыкі. Асабліва гэта датычыць рамансa І. Лучанка «Край мой беларускі»...

Сёння Міхаіл Жылюк па-ранейшаму працуе салістам ДАВТа Беларусі. Фігара ў «Севільскім цырульніку» Д. Расіні, Ялецкі ў «Пікавай даме» П. Чайкоўскага, Шарплес у «Чыо-Чыо-сан» Д. Пучыні, Валянцін у «Фаўсце» Ш. Гуно, партыі ў спектаклях «Шэкспір і Вердзі», «Карміна Бурана»...

А камернае выканальніцтва? Без гэтага спявак не ўяўляе свайго творчага жыцця. Праграмы з твораў П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, вакальныя цыклы Г. Малера і М. Мусаргскага... Выступленні ў Венгрыі, Польшчы, творчыя сустрэчы з беларускімі кампазітарамі...

За свае творчыя поспехі М. Жылюк адзначаны ганаровым званнем заслужанага артыста Беларусі, якое ён зноў з бляскам пацвердзіў, стаўшы лаўрэатам леташняга Міжнароднага конкурсу імя С. Крушэльніцкай у Львове. Гэта быў найскладаны конкурс оперных спевакоў, дзе ў III туры абавязковым было выступленне ў оперным спектаклі.

І яшчэ адна цікавая грань творчага жыцця артыста: з мінулага года ён пачаў выкладаць у Беларускай акадэміі музыкі. Тут слова «выкладаць» неяк нязграбна гучыць — мо не «выкладаць», а дзяліцца сваім вопытам са студэнтамі менавіта па класе канцэртна-камерных спеваў ды і па спецыяльнасці /сольны спявак/. І можна не сумнявацца, што плён будзе, таму што Міхаілу Аляксандравічу ёсць што перадаць сваім вучням.

**Леанід ІВАШКОЎ**

Паэзія

Зінаіда ДУДЗЮК



# ХРАМ ЛЮБОВІ

Я ў гэтым храме плачу і малюся,
Жыву пры ім аддана і няўзнак.
І сімвалам радзімай Беларусі
Над ім снягоў і неба белізна.

Тут гавару з зямлёй на роднай мове,
Як летапісы — вершы на стале.
Стаіць высокі храм маёй любові
На веры, і надзеі, і святле.

Я жрыца, мне вогнепаклоннай працай
Высвечваць душам стоены прасцяг.
Штодня агнём я апякаю пальцы
Дзеля зямнога вечнага жыцця.

Безабаронна выжываю ў слове,
І мне з ім кожнай літаркай балець.
Стаіць высокі храм маёй любові
На веры, і надзеі, і святле.

●

Час гандляроў стварае жабракоў
І прэзідэнтаў шмат — для раўнавагі,
Куе дзяржаўны міф для бедакоў:
Разбагацееш, калі маеш прагу.

Час гандляроў у скураным плашчы
Мазоль намуляў кабурой пад пахай,
Супроць яго ні слова ні шапчы,
Знішчае ён без жалю і без страху.

Час гандляроў заразны, як чума:
Вандруюць людзі дзейныя з вузламі,
Бы кара — наталення ім няма,
Жывуць і паміраюць на вакзале.

Час гандляроў стварае міражы.
За шчасце б'юцца бедныя народы.
І гэты час нам трэба пераэкыць,
Бо ён — пакуль, а людскасць —
назаўсёды.

●

Мінулым апячэ,
І лепш не варушыць.
Ёсць радасць для вачэй,
А трэба для душы.

Ад здрадніцкіх зарук,
Дзе словы-ледзяшы,
Шукаеш спраў для рук,
А трэба для душы.

Жывеш — нязваны госць...
Ці вырак аглушыў?
Для вуснаў песні скрозь,
А што спяваць душы?

Дзень засціцца журбой,
Хоць лёс перапішы.
Для цела ёсць любоў,
А мары — для душы...

●

Мне вашых словаў цяжкіх не падняць,
Зло філігрань нязвыклую займела.
Вось дзякуй богу, вы мне не радня.
І гэта ўсё, што я сказаць хацела.
Абразу гэту затаю ў начах
Ці выкажу цвярозымі радкамі.
Я не імкнуся вас перакрычаць,
Ваш голас тоне ў часе, нібы камень.

●

Не вер маім словам,
начным, апантаным,
астынуць яны,
як вуголле,
пад ранак.

Не вер маім словам,
паўдзённым, халодным,
яны маюць сэнс
прыхаваны, падробны.

Сабе толькі вер.
Я душою адчую,
наступныя смуткі
ўсе адшапчу я,
абараню ад тугі і нядолі.
Ты — маё рабства,
мара пра волю.

Колькі з цянётаў
гэтых ні рвуся,
а — застаюся,
а — застаюся...

●

Нанізаны словы на боль.
Працята маўчаннем прастора.
Табе, да цябе, за табой —
І заўтра, і сёння, і ўчора...

Асуджанасць долі прыняць.
І ў адзіноце зацята
Паўцарства аддаць за каня,
Каб вызваліць сэрца з-за кратаў.

А конь цэлы свет аббяжыць
І вернецца зноў да вытокаў,
Дзе сэрца аддана баліць
Пакутна любоўю высокай.

●

Не прывучай мяне, не прыручай.
Не розум, а душа ўсё вырашае.
Яна — той ціхі веснавы ручай,
Што да ракі кахання паспяшае,
Не ведаючы, дзе раку шукаць,
Адкуль паклікаць, як пазнаць,
прыкмеціць...
Вось быццам лёс трымаеш у руках,
А ён няўлоўны, як свавольны вецер.
Не прывучай мяне, не прывучай.
З усмешкаю цябе калісь згадаю.
Ад выпадковасці ратуе час.
Прыснёнае збываецца з гадамі.

# МУЗА, НАКАНАВАНАЯ ЛЁСАМ...

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АПАЛІНАРА ПУПКО

НАД ІВЯНЦОМ плыў цудоўны чэрвень семдзесят чацвёртага. З вялікім хваляваннем упершыню стаяў я перад брамай хаты, дзе жыў чалавек, з працамі якога мне даводзілася страчацца на розных выставах у далёкай Маскве, халодным тады яшчэ Ленінградзе, любай Вільні і стольным Мінску. Я не зважаў на птушыную сімфонію ў садзе за плотам і на водар, які разносілі квітнеючы бэз і дзікі вінаград, што атулялі фасад хаты, упрыгожаны карыятыдамі. Я прыйшоў на спатканне са слынным разьбяром, але ніяк не магу наважыцца націснуць клямку, каб апынуцца за мяжой будзённай рэчаіснасці і трапіць у свет вобразаў творцы. Урэшце пераадольваю няёмкасць, раблю крок і перад вачыма паўстае рукатворны экстэр'ер падворка, створаны вялікім майстрам. Я яшчэ ў той час не ведаў, што гэты візіт прынясе мне сапраўднае дзесяцігадовае сяброўства з дзядзькам Апалінарам і істотна паўплывае на мой жыццёвы і творчы лёс. Праз пэўны час, ужо жывучы ў Івянцы, шмат шчаслівых часін правёў я ў яго хлеўчуку — майстэрні, дзе так смачна пахла ліпай, слухаючы такую мілагучную беларускую гаворку, здзіўляючыся яго эрудыцыі ў галіне айчыннай гісторыі і літаратуры, непадробнай шляхетнай інтэлігентнасці. Да драбніц памятаю яго 90-гадовы юбілей, дзе за гасцінным сталом сабраліся прыхільнікі яго таленту — Ніл Гілевіч, Аляксей Марачкін, Пятро Садоўскі, Віктар Маркавец, Яўген Кулік, Мікола Купава і шмат іншых гасцей. А праз колькі месяцаў палымяныя словы мастака Марачкіна над магілай Маэстра.

Творчая спадчына Апалінара Фларыянавіча Пупко /1893—1984/ уяўляе неацэнны пласт духоўнай культуры нацыі. Івянецкая зямля дала Беларусі сапраўднага народнага творцу — носьбіта найкаштоўнейшых, глыбінных традыцый народнага разьбярства, самабытнага мастака-жывапісца, адмысловага графіка. Будучы прадстаўніком рэнесансу беларускай культуры пачатку XX стагоддзя, ён усёй сваёй творчасцю верна служыў ідэі беларушчыны, таму яго творы знаходзяць водгалас у сучасным працэсе Адраджэння.

Ён паходзіў з вядомага роду Пупкаў, які славіўся сваімі патомнымі майстрамі — мулярамі, ганчарамі, разьбярамі, чырванадрэўшчыкамі. З малаком маці ўпітаў у сябе тое творчае асяроддзе, якое было ўласціва Івянцу, як буйнейшаму цэнтру народнага мастацтва, росквіт якога прыпадае на дзіцячыя і юнацкія гады майстра. Усё яго доўгае і плённае жыццё прайшло ў Івянцы, за выключэннем двухгадовай вучобы ў прыватнай гімназіі ў Мінску, ды нешматлікіх вандровак у Вільню разам з братам Вацлавам, які час ад часу друкаваў свае допісы ў «Нашай Ніве» пад псеўданімам «Хвэлька з Івянца». Прафесійнай мастацкай адукацыі Апалінар не атрымаў, але дадзены Богам талент патрабаваў самавыражэння праз мастацкія вобразы. З дзяцінства з вялікай асалодай ён піша эцюды родных краявідаў акварэллю, лепіць з гліны, рэжа па дрэве, робіць малюнкі каляровымі алоўкамі. Пасля заканчэння Івянецкага чатырохкласнага гарадскога вучылішча яму давялося паспытаць хлеба ад працы рахункаводам, затым выкладаў маляванне ў школе, кіраваў выяўленчым гуртком пры Доме піянераў. Асобна трэба вылучыць яго культурна-асветніцкую дзейнасць у самадзейным беларускім тэатры ў часы Польшчы, дзе ён браў чынны ўдзел у якасці рэжысёра, акцёра і мастака-дэкаратара. Тады яму, як свядомаму беларусу, а не проста тутэйшаму каталіку, ужо не знайшлося месца для працы настаўнікам у школе, ды і непрыхаваная беларускасць ягонай творчасці не даспадобы прыйшлася новым уладам.

Бацькоўская хата была для А.Пупко акадэміяй жыцця, тут сфарміраваўся яго творчы і грамадзянскі светапогляд. Шкада, што багатая спадчына майстра раскідана па розных музеях рэспублікі і па-за яе межамі. Зараз цяжка ўявіць гэты асяродак нацыянальнай культуры без знакамітай брамы, якая з'яўлялася свайго роду камертонам усёй творчасці майстра, адметнай дамінантай местачковай архітэктуры.

Пачатак творчасці разьбяра вызначаецца манументальнасцю формаў, карпатлівай прапрацоўкай аб'ёмаў, імкненнем да перадачы анатамічных асаблівасцей мадэлі, строгай вытрыманасцю прапорцый. Адчуваецца захапленне класічным мастацтвам і нават імкненне да ілюзорнасці. Гэта ўласціва такім творам, як дасканалай па форме скульптуры Божай маці з немаўляцем на руках, выкананым у рост чалавека дзвюм выявам з рымскіх ваяроў, адзіным па кампазіцыйнай пабудове, але розным па выяўленчым змесце — сіметрычныя надваконныя карнізы і лаканічна-абагульненыя статычныя карыятыды. У гэтых працах, захапляючыся паліхромнай расфарбоўкай скульптур, майстра ўдала пазбягае натуралізму, выпрацоўвае свой уласны творчы стыль на аснове засвоеных традыцый народнай культавай пластыкі Беларусі, абапіраючыся на сваю мастакоўскую інтуіцыю.

Супярэчлівасць паміж творчасцю і рэаліямі жыцця суправаджала Апалінара Фларыянавіча на працягу ўсяго жыцця, бо занятак мастацтвам ніколі не задавальняў яго матэрыяльна, а толькі духоўна. Смерць маленькай дачушкі, а потым мілай і слаўнай жонкі прыбавілі сівізны на скронях. Пад ягонай апекай амаль на дзесяць гадоў засталіся дзве дачкі. У пяцьдзесят сем гадоў ён другі раз ажаніўся і ад гэтага шлюбу меў яшчэ дзвюх дачок.

Галоўнае тое, што яго адмоўна ўспрымалі мясцовыя чыноўнікі і асабліва першы сакратар райкама партыі т.Шчолкін і яго наступнікі, пыхліва сцвярджаючы, што Пупко ніякіх заслуг не мае перад савецкай уладай, бо робіць партрэты паноў Дуніна-Марцінкевіча ды Міцкевіча, а не бацькоў усіх народаў Сталіна ды Леніна. За гэта адмаўлялі яму ў праве на пенсію, па ідэалагічных меркаваннях канфіскавалі багатую сямейную бібліятэку. Заўсёды стваралі праблемы то з палівам, то з нарыхтоўкай матэрыялаў для разьбы. А людзі, з усіх куткоў рэспублікі і нават былой краіны-імперыі, ужо ехалі да яго ў хату, каб глынуць з ягонай творчасці глыток крыштальнай беларушчыны, каб дакрануцца сэрцам да сапраўднага і шчырага мастацтва, шукаючы тут аддушыну ад пачварнага ідэалагічнага смогу, што агарнуў асобу, выкрасліўшы ўсё святое з яе душы.


*Апалінар Пупко за працай.*

У пасляваенны час майстар рэзка змяніў сваю творчую манеру. З-пад разца Пупко выходзяць адна за адной работы, якія ўсхваляюць стваральную сацыялістычную працу /«Касец», «Жанчына з пеўнем»/, дзе назіраецца налёт сентыментальнасці, а ў скульптурах, прысвечаных грамадзянскай вайне /«Арлёнак», «Паўстанне»/, прысутнічае псеўдарамантызм. Па-сапраўднаму здольнасці сямідзесяцігадовага майстра раскрыліся ў літаратурна-фальклорнай тэматыцы, дзе ён дамагаецца гармоніі зместу і формы. Па кампазіцыйнай пабудове творы становяцца шматварыятыўнымі, дасканала выкарыстоўваюцца як вертыкальныя, так і гарызантальныя кампазіцыйныя схемы. Майстар адмаўляецца ад паліхромнай размалёўкі скульптур, шмат увагі надае натуральнай тэкстуры дрэва. Абагульняючы форму, ён выкарыстоўвае прыём плоскаснага вырашэння архітэктонікі аб'ёмаў, засяроджваючы ўвагу на галоўным праз скрупулёзную прапрацоўку дэталяў, чым дамагаецца глыбокага псіхалагізму персанажаў /«Ганчар», «Умелец», «Лірнік», «Пустарэвіч», «Бабыль», «Лепш застацца ўдавой», «Несцерка» і інш./.

Да здабыткаў партрэтнага жанру можна аднесці бюсты Дуніна-Марцінкевіча, Адама Міцкевіча, Ісуса Хрыста, абагульненыя тыпы сялян і шляхты. Творчае натхненне разьбяра не абмінула блізкіх па духу асоб беларускай культуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кастуся Каліноўскага, вялікага князя Вітаўта. Вельмі ўражвае постаць паэта Цёткі, дзе спалучэнне лірызму з манументальнасцю пераканаўча перадае яе сапраўдны патрыятызм.

У апошнія гады жыцця А.Пупко спяшаўся канчаткова давесці да завяршэння аздабленне сваёй хаты звонку. Стварае сваю лебядзіную песню — рэзаў, працуючы амаль на вобмацак, два вялікія рэльефы да веранды. На адным з іх зрабіў выяву сейбіта, на другім — сялянскую мадонну. Рэльефы атрымаліся цікавымі, манументальна-эпічнымі. Дэкаратыўнасць карункаў з кветак і раслін надало элегантнасць філасофска-жыццёвай задуме аўтара.

... Спіць, забыўшыся вечным сном, побач з продкамі, на цвінтары ля Чырвонага касцёла ў Івянцы слынны Майстар, але надпіс па-польску на помніку: *«PUPKO APOLINARY 12.XI. 1893—18. VI. 1984 г.»* нічога не кажа нашчадкам аб яго адменнай місіі на гэтай зямлі.

Сёлета шмат кветак будзе на тваёй магіле, маэстра. І калі сапраўды душы памерлых вітаюць сярод жывучых на гэтым свеце, то твая, Апалінар Фларыянавіч, адчуе, што існуе яшчэ Беларусь, што надзея Адраджэння Бацькаўшчыны яшчэ не страчана.

**Алег РАМАНОЎСКІ**

*м.Івянец*

# ЛІЗА І ЛЯВОН ЛІТАРОВІЧЫ: «БУДЗЕ СВЯТА І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ»

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ

**— Спадарыня Ліза, у вашай утульнай і цёплай хаце гасцілі беларусы ці не з усяго свету...**

**Ліза:** — Найбольш з Беларусі. Першымі былі Вольга Корбут з Лявонам Барткевічам, пасля гурт «Лявоны» з Воранава, «Жывіца»...

**Лявон:** — Калі мы паедзем на Беларусь, — мы ўсё спагонім. А на бацькаўшчыну вельмі хочацца. Я не быў там ажно 50 гадоў... Выехаў з бацькамі, калі мне было 12 гадоў. Хочацца паглядзець на радзіму, прайсціся на мясцінах, дзе збіраў суніцы, баравікі, лісічкі... Я ж вялікі аматар грыбоў. Магу цэлы дзень прабыць у лесе і ніколі мне есці там не хочацца...

**— А якая яна, радзіма, у вашым уяўленні?**

**Ліза:** — Такая, як пакінулі...

**Лявон:** — А я не памятаю, шмат забыўся... Пясчаныя дарогі помню толькі...

**— А Беларусь часта сніцца?**

**Лявон:** — О, часта!

**Ліза:** — Мне сніцца пах сасновага лесу вясной, калі растае снег. Я любіла сядзець на сонцы і грэцца. Я часта сню, што іду праз гэты лес, але дарога мая вядзе на могільнік... Гэты сон паўтараецца шмат гадоў... Раней я думала, што вярнуся дахаты...

**— А дзе ваша хата?**

**Ліза:** — Мы жылі да эміграцыі ў Крупчыцах. Мой бацька быў псаломшчыкам у царкве святога Уладзіміра.

**Лявон:** — А я з-пад Барысава.

**— Цяпер, пасля 50 гадоў эміграцыі, вы не змаглі б жыць на Беларусі?..**

**Лявон:** — А чаму — не?

**Ліза:** — Мы разумеем усе вашы цяжкасці, бо самі зведалі нямала крыўд і гора...

**Лявон:** — А я скажу так, каб эміграцыя прыехала на Беларусь, — пачалося б сапраўднае Адраджэнне. Але, як казаў на XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі міністр замежных спраў Беларусі Пятро Краўчанка, беларускі ўрад мусіць выбачыцца перад беларускай эміграцыяй.

**— Камуністычная прапаганда называла вас не інакш, як ворагамі народа, здраднікамі, калабарантамі...**

**Ліза:** — А якія ж мы здраднікі! Мы пакінулі Беларусь не з-за таго, што не любілі яе. Мы любілі і любіць будзем...

**Лявон:** — Але ж была вайна, былі розныя абставіны, якія чалавек не мог змяніць. І гэта трэба ўлічваць. Многія ўцякалі з Беларусі, бо ратавалі сваё жыццё. Некаторыя людзі вярталіся з Нямеччыны назад, але іх адразу ж хапалі і ў каталажку...

**Ліза:** — Мой брат вярнуўся з Нямеччыны дадому. Не падаўся ў эміграцыю, а паехаў назад і дастаў 15 гадоў зняволення. А за што? Пакуль адседзеў, адмарозіў ногі, страціў здароўе, вярнуўся і памёр... Яго немцы вывезлі на працу ў Германію. Партызаны не змаглі з гэтым змірыцца і забілі майго бацьку... Ну як было жыць звычайным людзям? А якая галеча была! Два гады хадзіла ў адной і той жа сукеначцы, якую маці звязала... У нядзелю рана адзену і хаджу сем дзён да другой суботы, пакуль немцы не гоняць у лазню... Мне было 10 гадоў, а мяне абстрыглі нагала... Туфлі дзіравыя, і я затыкала дзіркі паперкамі... Страшна ўспамінаць...

**Лявон:** — Мяне вывезлі ў Нямеччыну, дзе я пасвіў цялят у баўэра. Надыходзіла зіма, на траве ўжо іней, а я — босы... Холадна. Адно цяля адбілася ад статка, і я паслаў сабаку, каб ён адвярнуў. А ішоў нямецкі салдат і ўбачыў гэта. Ён да мяне і ўсякімі брыдкімі словамі: як гэта я цкую сабаку на цяля... Замахнуўся кулаком, каб стукнуць мне ў вуха, а я прыгнуўся, і ён прамазаў. Я — наўцёкі... Азірнуўся, а ён дастаў наган з кабуры і цэліцца ў мяне... Бягу і думаю, калі будзе страляць — хай страляе ў спіну... Але не стрэліў... Такое было маё жыццё ў Нямеччыне. Галодныя былі, абарваныя. Для немцаў мы не людзі былі, а рабы. Памятаю ў 1945 годзе перад самай капітуляцыяй такі выпадак. На ўскраіне гарадка спыніўся нямецкі грузавік, які вёз харчы на фронт... Спыніўся, бо далей ехаць не было куды... Гарадок занялі амерыканцы. І салдаты пачалі раздаваць людзям прадукты... Усе ж былі галодныя. А мая маці кажа: няўжо яны мяне застрэляць? Пайду і я стану ў чаргу. Пайшла, стала. А нейкі немец — за плячо і выкінуў маці з чаргі. Што тут пачалося! Іншыя немцы як наваляцца на яго, як пачалі крычаць: што ты робіш! А на маці кажуць: станавіся! І ёй далі гароху, крупы і мёду трохі... Не саладка жылося і ў лагерах для перамешчаных асоб. Як збавення, усе чакалі дазволу на эміграцыю...

**— Нялёгка, мабыць, было па першым часе і ў Амерыцы?**

**Лявон:** — Так, але гэта зусім іншая краіна, і мы гэта адразу зразумелі. Мой бацька быў хворы на астму, але ніяк не мог кінуць курыць. Яму дактары кажуць: кідай курыць, бо памрэш. А ён у адказ: памру, а не кіну. А калі мы прыехалі ў Амерыку і паглядзелі, як тут людзі жывуць, бацька сказаў: Бог жыве ў гэтай краіне і тут грэх курыць. І кінуў сігарэту. І больш ніколі не браў...

**— У дастатку і раны хутчэй гояцца, і настальгія праходзіць...**

**Лявон:** — І так, і не. Асабліва наконт настальгіі... Яна адыходзіць неяк сама па сабе. Але, бывае, калі-небудзь ні з таго ні сяго як нахлыне... І ўсё ўспомніцца зноў...

**Ліза:** — Нам лягчэй было пераносіць смутак расстання таму, што ў Амерыцы свабода. Амерыканцы кажуць так: ты не можаш быць добрым амерыканцам, калі ты не будзеш любіць сваю бацькаўшчыну, зямлю, адкуль ты паходзіш. Калі ты не будзеш любіць свайго бацьку, сваю сям'ю, сваю мову, — то ты нам непатрэбна, бо ты не ёсць добры чалавек. Таму тут усе нацыі — а Амерыка гэта краіна эмігрантаў — захавалі свае традыцыі. Мы, беларусы, таксама.

**— Спадарыня Ліза, а ці былі ў сувязі з гэтым нейкія перашкоды з боку ўлад?**

**Ліза:** — З боку ўлад — барані Божа. Тут усе людзі роўныя і цяга да свайго, нацыянальнага толькі вітаецца. Былі праблемы іншага кшталту. Як ні сумна, але і ў Амерыцы ёсць беларусы, якія саромеюцца сваёй беларускасці... Яны адышлі альбо да рускіх, альбо да палякаў... А беларусаў не прызнаюць.

**Лявон:** — А нам жа так цяжка было даказваць, што мы беларусы, асобная нацыя. Дзе маглі пісалі, што мы — беларашэн. Спачатку амерыканцы дзівіліся: белыя рускія? А што, хіба ёсць і блэкрашэн — чорныя рускія? Можа, гэта і смешна, але так было, пакуль мы не давялі ім, што Беларусь — гэта вялікая краіна... Нас тут не так шмат, беларусаў...

**Ліза:** — Амерыканцы да нас заўсёды адносіліся вельмі прыхільна. У мяне на фабрыцы ўсе ведаюць, што я беларуска, і калі нашы святы не супадалі з амерыканскімі, мне ніводнага разу не адмовілі ў праве святкаваць іх. Мне давалі выхадны дзень. Нацыянальныя і рэлігійныя пачуцці ўсіх людзей тут вельмі шануюць.

**— Скажыце, а вы ўжо змірыліся, што Беларусь ніколі не будзе радзімай вашых дзяцей?**

**Ліза:** — Бацькаўшчына нашых дзяцей тут, у Амерыцы. Мяне цягне да свайго, а іх да свайго. Яны ведаюць, што мы беларусы, а яны — амерыканцы...

**Лявон:** — Але калі жыццё на Беларусі палепшае, то я не кажу, што мае дзеці — яны ўжо дарослыя — і мае ўнукі, можа, некалі і паедуць на Беларусь, падастаюць работы і будуць працаваць. А што?

**Ліза:** — Дзеці нашы вельмі цікавяцца Беларуссю. Асабліва цяпер. Наша дачка, калі дзе-небудзь што прачытае пра Беларусь, выразае і прысылае нам. Наш зяць — ірландзец. Ён любіць і нашу дачку, і нас, паважае ўсё беларускае.

**Лявон:** — Каб не было эміграцыі, ніхто ў Амерыцы нічога не ведаў бы пра Беларусь. Мы першыя, хто сказаў пра гэта на ўвесь голас, шмат сіл на гэта паклалі. Уся эміграцыя грунтуецца вакол царквы. Розныя палітычныя арганізацыі даўно параспадаліся, а царква існуе, бо яна аб'ядноўвае людскія душы. Ды і мы трымаемся царквы. З Богам жыць лягчэй...



*У гасцях ў Лявона і Лізы Літаровічаў.*

*Фота М. СЕНЬКІ*

Рэпліка

# ПАТРЫЯТЫЗМ І — ПАТРЫЯТЫЗМ

«... Канфесійны патрыятызм — таксама не самы канструктыўны шлях да наладжвання духоўнага сумоўя і паразумення: тут патрэбны сапраўды аб'ектыўныя, бесстаронняя даследаванні». Гэтымі словамі рэдакцыя «ЛіМа» суправаджае выступленне на старонках штотыднёвіка Валянціны Дышлевіч пад загалоўкам «Усё вырашае сама царква...» /«ЛіМ», N 14, 9. 04. 1993 г./.

Канфесійны патрыятызм — новае і нязвыклае словазлучэнне, ніколі раней не ўжыванае ні ў свецкім, ні ў царкоўным асяроддзі, але, здаецца, даволі зразумелае: канфесійны патрыятызм — любоў чалавека да свайго веравызнання /канфесіі/, да сваёй Царквы. Добрае гэта пачуццё ці кепскае? Можа яно быць канструктыўным шляхам да паразумення ці не? Давайце параўнаем канфесійны патрыятызм з тым, што мы называем проста патрыятызмам; давайце паставім разам любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да свайго народа, да сваёй зямлі і любоў да сваёй Царквы. Ці добра не любіць роднай зямлі і роднай мовы? Як жа не любіць нам і сваёй роднай Царквы, якая на працягу ўсяго гістарычнага шляху нашага народа была для нас, беларусаў, найвялікшым духоўным скарбам, якая несла нашаму народу святло ісціны Хрыстовай і вяла да вечнасці? Як не любіць нам, беларусам, тую Царкву, ва ўлонні якой выраслі такія магутныя волаты духу, як свяціцель Кірыла Тураўскі, прападобная Еўфрасіння Полацкая, прападобнамучанік Афанасій Брэсцкі, праведная Сафія Слуцкая?

Мне могуць сказаць у адказ: не забывайце, што на нашай зямлі, акрамя Праваслаўнай Царквы, ёсць і іншыя канфесіі: каталіцтва, баптызм, пяцідзесятніцтва, іудаізм, мусульманства, адвентызм і яшчэ некаторыя, хай сабе і нешматлікія. Калі мы будзем гаварыць аб праваслаўным патрыятызме, аб вернасці беларуса сваёй беларускай праваслаўнай традыцыі, то ці не пакрыўдзім каталікоў, мусульман або баптыстаў? Думаю, не пакрыўдзім, і вось чаму. У Беларусі, акрамя беларусаў, жывуць палякі, рускія, татары, яўрэі, цыганы, але мы, беларусы, не баімся гаварыць пра беларускі патрыятызм, бо разумеем, што можна быць беларускім патрыётам і разам з тым з павагай ставіцца да людзей любой іншай нацыянальнасці. Гэтаксама і ў рэлігіі: можна да самазабыцця любіць сваю Царкву, сваю канфесію, быць верным сваёй царкоўнай традыцыі і разам з тым з павагай ставіцца да чалавека іншага веравызнання і іншага светапогляду.

Любоў да сваёй Царквы — гэта пачуццё настолькі ж натуральнае, патрэбнае і пажаданае, як і любоў да сваёй Бацькаўшчыны, сваёй зямлі, сваёй мовы. А канфесійная абыякавасць — пачуццё настолькі ж згубнае для чалавека, як і нацыянальны нігілізм. Вядома, ёсць небяспека пераходу канфесійнага патрыятызму ў фанатызм і агрэсіўнасць у адносінах да іншых канфесій, гэтаксама як існуе падобная небяспека і ў адносінах міжнацыянальных. Але гэта не можа быць аргументам супраць права на жыццё здаровага царкоўнага патрыятызму, як і патрыятызму нацыянальнага.

Мне здаецца, нам трэба прызнаць, што ў сучасным беларускім грамадстве нам вельмі не хапае і нацыянальнага, і канфесійнага патрыятызму. Вядома, што большасць жыхароў нашай рэспублікі — беларусы. Але што характарызуе іх як беларусаў, акрамя адзнакі ў пашпарце, калі яны часта не ведаюць сваёй мовы, сваёй гісторыі, сваёй культуры? Вядома таксама, што большасць жыхароў Беларусі — праваслаўныя, але што характарызуе іх як праваслаўных, акрамя факта хрышчэння, калі многія з іх не ведаюць ні свайго праваслаўнага веравучэння, ні гісторыі сваёй Царквы, ні нават самых пачатковых штодзённых малітваў і не бываюць у храме не тое што кожную нядзелю, як гэта належыць, але ўвогуле не адчуваюць патрэбы ў малітве?

Лёс абодвух гэтых пачуццяў — нацыянальнага патрыятызму і царкоўнага патрыятызму — у апошнія дзесяцігоддзі быў вельмі падобным у нашым грамадстве: з нашых душ і сэрцаў імкнуліся выкараніць і рэлігійную і нацыянальную свядомасць. Поўнасцю, праўда, зрабіць гэтага не ўдалося, але многае, на жаль, зроблена. Былі і ёсць людзі, якія захавалі моцны нацыянальны патрыятызм, гэтаксама як былі і ёсць вернікі, якія праз усе выпрабаванні пранеслі сваю веру і канфесійную свядомасць. І тых, і другіх не шмат. І, на жаль, зусім мала тых, што захавалі і першае, і другое.

Сёння на Беларусі ўсё больш і больш людзей прыходзяць да ўсведамлення сваёй беларускасці і сваёй праваслаўнасці. На жаль, працэсы гэтыя ідуць складана. І вельмі шкада, што яны ідуць хоць і адначасова, але незалежна адзін ад другога. Нам трэба шмат працаваць над тым, каб скіраваць іх у адно рэчышча нацыянальна-духоўнага Адраджэння. Канфесійны патрыятызм патрэбны нашаму народу не менш, чым патрыятызм нацыянальны.

**Протаіерэй Сергій Гардун,**
**кандыдат багаслоўя**

*В. Жыровічы, Духоўная семінарыя*

### Ад рэдакцыі

**Магчыма, рэпліка протаіерэя С. Гардуна і не з'явілася б, калі б у тым каментарыі было сказана так: «*празмерны* канфесійны патрыятызм»... Альбо адным, больш зразумелым для чытача ды менш вабным для газеты — словам: фанатызм. Прынамсі, мы цалкам падзяляем занепакоенасць аўтара тым, што «ёсць небяспека пераходу канфесійнага патрыятызму ў фанатызм і агрэсіўнасць у адносінах да іншых канфесій». Толькі з'ява гэтая, падаецца, больш шырокая, чым межы канфесіі.**

